









АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

8 лістапада 2000 года
Цана 90 рублёў

№ 45 (2707)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

АКТУАЛЬНА

## ВЫБАРЫ АДБЫЛІСЯ

● Галіна УЛІЦЁНАК.

У Беларусі прайшоў другі тур выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Паўторнае галасаванне адбылося ва ўсіх 56 акругах. Па папярэдніх даных Цэнтрвыбаркама, удзел у ім прынялі 52,6 працэнта выбаршчыкаў, хаця ў адрозненне ад першага тура, для другога было дастаткова і 25 працэнтаў.

Адпаведна афіцыйным звесткам, найбольшую актыўнасць — 63,3 працэнта яўкі — прадэманстравалі выбаршчыкі Брэсцкай вобласці. Найменей падтрымаў выбары Мінск: прагаласавалі 39,2 працэнта. Ва ўсіх акругах дэпутаты абраны, бо гэтым разам ужо не спатрэбілася набіраць вызначаныя 50 працэнтаў: неабходна было проста апярэдзіць канкурэнта. Такім чынам, у Палаце прадстаўнікоў заняты 97 месцаў са 110, трыццаць пяць крэслаў у Авальнай зале захаваюць за сабой іх ранейшыя уладальнікі — дэпутаты першага склікання.

Сярод тых, каму будуць уручаны дэпутацкія мандаты пасля другога тура, — 6 жанчын. Большасць нававыбраных дэпутатаў маюць узрост ад 30 да 50 гадоў, усе з вышэйшай адукацыяй. Трэба адзначыць, што ім прыйдзецца развітацца з цяперашнім месцам працы, бо, па новых правілах, нельга сумяшчаць заканатворчасць з іншай дзейнасцю.

Што тычыцца партый, то яны ў другім туры галасавання атрымалі 8 месцаў у Палаце прадстаўнікоў: Камуністычная партыя Беларусі — 4, Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці — 2, Аграрная партыя — 1, Ліберальна-дэмакратычная — 1. Аднак, як мы ўжо паведамлялі, найбольш гучныя партыі ўдзел у выбарах не бралі ўвогуле. Больш таго, у другім туры некаторыя апазіцыйна настроеныя кандыдаты, якія пайшлі на выбары самастойна і трапілі на паўторнае галасаванне, паздымалі свае кандыдатуры ў знак своеасаблівага пратэсту, бо палічылі гэтыя выбары непразрыстымі і несправядлівымі. Сярод такіх "адмоўнікаў" і былы прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір.

Рэзка знізілі сваю актыўнасць і так званыя міжнародныя назіральнікі, якіх налічвалася ўсяго 12 чалавек,

У гэтыя дні ідзе вылучэнне дэпутатаў у члены Савета Рэспублікі — верхняй палаты Нацыянальнага сходу. Уладамі плануецца, што да Новага года Нацыянальны сход у поўным складзе пачне сваю работу.



## ВІВАТ БДУ!

● Віктар ТАЛОЧКА, БелТА.

**30 кастрычніка вядучая навучальная ўстанова нашай краіны — Беларускі дзяржаўны універсітэт — адзначыла Дзень універсітэта. Адной з цэнтральных падзей свята стала адкрыццё помніка беларускім гуманістам Сымону Будному і Васілю Цяпінскаму.**

**Адкрыў помнік беларускім асветнікам рэдактар Белдзяржуніверсітэта Аляксандр КАЗУЛІН (на здымку).**

Заканчэнне на 3-й стар.

АНОНС

### ІНТЭРВ'Ю Дзмітрыя МІХЛЕЕВА З «ДЖЫНАМ» З «БАНКІ»

Ён з'явіўся нечакана, як Джын. Меркаванні яго аб усім у жыцці парадаксальныя. Ітак, Яўген Краўцоў, вядомы банкір, стваральнік тэлевізійнай "Банкі коміксаў", бацька сямейства, уладальнік студый "Відэафакт" і "Мецафакт", самастойна паставіў мастацкі фільм "Армія выратавання"... Аб астатнім вы зможаце даведацца з гутаркі з ім у бліжэйшых нумарах газеты.

ГОСЦЬ



## Яўгеніюш ЧЫКВІН: «У ПЛАНАХ — АЛЬБОМ СВЯТЫНЯЎ ВКЛ»

**Імя Яўгеніюша Чыквіна, галоўнага рэдактара агульнапольскага штомесячніка "PRZEGLAD PRAWOSLAWNY" ("Агляд праваслаўны"), добра вядомае сярод беларусаў Польшчы. А нядаўна Я. Чыквін быў госцем Беларускай праваслаўнай царквы.**

**— Спадар Чыквін! З якой нагоды вы завіталі ў Мінск!**

— Прыехаў я разам з дарадцам прэзідэнта па справах нацыянальных меншасцей і старшынёй Хрысціянскай грамадскай асацыяцыі Казімежам Мураўскім па запрашэнню Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта. На сустрэчах абмяркоўвалі шляхі далейшага збліжэння праваслаўнай царквы Польшчы і Беларусі.

Заканчэнне на 2-й стар.

СІДНЭЙ-2000: ІНВАСПОРТ

### ПАД ЦЯЖАРАМ МЕДАЛЁЎ

***ВЯРНУЛІСЯ БЕЛАРУСКІЯ СПАРТСМЕНЫ-ІНВАЛІДЫ З XI ЛЕТНІХ ПАРАЛІМПІЙСКІХ ГУЛЬНЯЎ У СІДНЭІ***

Усяго ў скарбонцы беларусаў 23 медалі: пяць залатых, восем сярэбраных і дзесяць бронзавых. Па колькасці медалёў вышэйшай пробы Беларусь заняла 28-е месца сярод 122 краін. Нагадаем, што чатыры гады таму ў Атланце нашы паралімпійцы сталі ўладальнікамі трынаццаці ўзнагарод.

Перад ад'ездам у Сіднэй кіраўнік Нацыянальнага паралімпійскага камітэта Ігар Жалязоўскі гаварыў, што спартсмены разлічваюць на 15—17 узнагарод. Нашу краіну на Зялёным кантыненце прадстаўлялі 26 чалавек, якія выступалі ў спаборніцтвах па плаванню, лёгкай атлетыцы, веласпорту і паўэрліфтынгу. Паказаныя імі вынікі не могуць не выклікаць павагу.

**Ігар ХАДАСЕВІЧ**, БелТА.

«ГР»
НА БЕЛАРУСІ ПАДПІСАЦЦА МОЖА КОЖНЫ! Індэкс 63854, кошт на 1 месяц — 430 рублёў.
У Мінску заўсёды можна набыць у магазіне № 2 «Белсаюздруку» — праспект Ф. Скарыны, 44.
УКЛЮЧАНЫ Ў ПАДПІСНЫЯ КАТАЛОГІ РАСІІ, УКРАІНЫ, ЛІТВЫ, КАЗАХСТАНА, КІРГІЗІІ.

## ЛЁТЧЫКІ З ВЁСКІ БЕЛЬ



● Валерый БЫСАЎ, *БелТА.*

Юрый Белазёраў і Міхаіл Мядзведзеў амаль штодзень падымаюцца ў неба над роднай вёскаю Бель, што ў Крычаўскім раёне. Тут яны вучыліся ў школе, затым служылі ў арміі, а потым вярнуліся сюды пасля заканчэння лётнага вучылішча пад Саратавам.

Справа ў тым, што ў іх калгасе "Бель" па ініцыятыве старшыні Мікалая Сапранецкага створаны цэлы лётна-тэхнічны комплекс з шасці самалётаў АН-2. Ён абслугоўвае гаспадаркі ў сямі раёнах Магілёўскай вобласці, а хутка, калі папоўніцца яшчэ некалькімі самалётамі, будзе працаваць і за яе межамі. Авіятары апрацоўваюць хімікатамі пасевы, выконваюць іншыя работы.

## ПЕРСПЕКТЫВЫ

**БУДАЎНІЦТВА АЎТАТРАСЫ БРЭСТ — МАСКВА АКУПІЦЦА ПРАЗ 12 ГАДОЎ.** Штогадовы прыбытак ад эксплуатацыі трансеўрапейскай аўтатрасы Брэст — Мінск — Масква будзе складаць 200—300 мільёнаў долараў у год, мяркуе дзяржсакратар Саюза Беларусі і Расіі Павел Барадзін.

У інтэрв'ю, апублікаваным у газеце "Новые известия", ён адзначыў, што фінансавай рызыкі пры будаўніцтве гэтай супермагістралі няма наогул. Сама ж дарога акупіцца праз 12 гадоў. Рашэнне аб пачатку будаўнічых работ будзе прынята ў бліжэйшы час, і новая дарога стане часткаю трансканцінентальнай трасы Лондан — Сінгапур.

Па словах П. Барадзіна, крэдыты на будаўніцтва магістралі будуць узяты "ў шэрага салідных фірм і арганізацый Беларусі, Расіі, Заходняй Еўропы". Акрамя таго, плануецца падключыць грошы акцыянераў, даходы ад выпуску аблігацый і банкаўскія крэдыты.

Як паведаміў дзяржсакратар Саюза, "нядаўнія перагаворы надаюць упэўненасць, што атрымаць можна нават не 20 мільярдаў на адзін участак, а намнога больш. І не на адзін яе адрэзак, а на ўсю супертрасу, якая пройдзе праз Беларусь і Расію да самага Далёкага Усходу, уключаючы тунель да Сахаліна".

П. Барадзін таксама паведаміў, што даны праект прадугледжвае не толькі будаўніцтва новых участкаў аўтамагістралі Брэст — Мінск — Масква, але і рэканструкцыю ўжо існуючых, а яшчэ — рэканструкцыю другой Маскоўскай кальцавой дарогі — у прастамоўі "бетонкі", узвядзенне ўсёй інфраструктуры сучаснай еўрапейскай трасы з яе шматлікімі кафэ, станцыямі тэхабслугоўвання і гэтак далей.

## МЕРКАВАННЕ

**ВОПЫТ РАБОТЫ ЭКС-ПАСЛА ЗША Ў БЕЛАРУСІ Д. СПЕКХАРДА МАЕ ПРАКТЫЧНАЕ ПРЫМЯНЕННЕ Ў ЯГО ЦЯПЕРАШНЯЙ ДЗЕЙНАСЦІ.** Былы пасол ЗША ў Беларусі Дэніэл Спекхард, зараз намеснік памочніка генеральнага сакратара НАТО па палітычных пытаннях, выказаў заклапочанасць ходам парламенцкіх выбараў у Беларусі.

Пра гэта Д. Спекхард заявіў у час сустрэчы з беларускімі журналістамі ў Бруселі.

Д. Спекхард адзначыў, што, пакінуўшы Беларусь, ён "не перастае назіраць за развіццём падзей, якія адбываюцца ў гэтай краіне".

Па яго словах, "не зусім зразумела, што адбудзецца (у палітычным плане) пасля рашэння парламенцкай "тройкі" Савета Еўропы адносна ходу выбараў у Беларусі".

Разам з тым экс-пасол падкрэсліў, што "працаваць у Беларусі было складана, але ў той жа час вельмі цікава". Пры гэтым Д. Спекхард адзначыў, што вопыт работы, назапашаны ў Беларусі, мае практычнае прымяненне ў яго цяперашняй дзейнасці пры абмеркаванні стратэгіі ўстанаўлення партнёрства паміж Беларуссю і НАТО.

Напрыканцы гутаркі Д. Спекхард выказаў жаданне, каб "як мага больш беларусаў даведалася, што такое НАТО на самай справе, і зразумела, што з боку НАТО няма ніякай пагрозы".

## ЗАПАВЕДНІКІ

**У БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ ІДЗЕ ВЫМУШАНЫ АДСТРЭЛ НЕКАТОРЫХ ВІДАЎ ЖЫВЁЛ.** Як паведаміў намеснік дырэктара па навуковай рабоце запаведніка Юрый Казулька, ідзе адстрэл аленяў, кабаноў і зуброў. Адстрэльваюцца ў асноўным хворыя і старыя жывёлы.

Кіраўніцтва запаведніка прыняло рашэнне аб істотным скарачэнні аленяў і кабаноў, таму што іх колькасць у некалькі разоў перавышае норму, якая дазваляе суіснаваць у запаведніку розным відам жывёл без шкоды адзін аднаму.

Вучоныя запаведніка высветлілі, што з-за вялікай колькасці гэтых жывёл нанесены ўрон лясным пасадкам, падарвана кармавая база зуброў.

Па інфармацыі Ю. Казулькі, у гэтым годзе ў выніку селекцыйнага адстрэлу статак зуброў паменшыўся на восем штук. Але, як падкрэсліў Ю. Казулька, па апошніх даных, іх колькасць зараз у норме і вагаецца ад 220 да 250 асобін. Гэта, адзначыў вучоны, забяспечвае натуральнае ўзнаўленне зуброў.



# АСАБЛІВАСЦІ

## УДЗЕЛ БЕЛАРУСІ Ў ПРАЦЭСЕ

Апошняе дзесяцігоддзе было багатае не толькі на прыродныя або тэхнагенныя катастрофы. У сацыяльнай сферы адбыліся змены, якія прывялі да неабарачальных вынікаў для грамадства, тым ці іншым чынам закранулі кожную сям'ю, кожнага чалавека. У першую чаргу, гэта распад вялікай дзяржавы і стварэнне Саюза Незалежных Дзяржаў. Адразу тысячы людзей ператварыліся ў іншаземцаў, жыццёвыя ўмовы многіх трансфармаваліся ў праблему, вырашыць якую часам было нялёгка.

На тэрыторыі новых дзяржаў па розных прычынах з'явіліся так званыя "свае" бежанцы, а таксама людзі, якія знаходзяцца ў сітуацыі, падобнай да стану бежанцаў, нелегальных мігрантаў, прымусовых перасяленцаў. Прадстаўнікі раней дэпартаваных народаў, экалагічныя мігранты, рэпатрыянты шукалі магчымасць набыцця пастаяннага месца жыхарства або прыстанішча адпаведна абставінам іх асабістай сітуацыі.

Зразумела, што гэтыя працэсы, якія маштабна перарастаюць у наддзяржаўную праблему рэгіянальнага і сусветнага ўзроўню, не маглі быць не заўважанымі такімі міжнароднымі арганізацыямі, як Упраўленне Вярхоўнага Камісара ААН па справах бежанцаў, Міжнародная арганізацыя па міграцыі, Арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе.

Ва унісон з рашэннямі Жэнеўскай канферэнцыі 1996 года па праблемах бежанцаў, прымусова перамешчаных асоб, пытаннях міграцыі і прыстанішча была прынята Праграма дзеянняў Канферэнцыі па краінах СНД.

За перыяд з 1996 года нацыянальны патэнцыял па кіраванню міграцыяй і механізмы абароны былі створаны і ўмацаваны ва ўсім рэгіёне СНД. У большасці дзяржаў у цэлым сфарміравана заканадаўчая база. Хаця правапрымяняльная практыка застаецца нестабільнай і няпоўнай, большасць краін СНД далучыліся да міжнародных прававых інструментаў. Акрамя таго, большасць новых дзяржаў або ўвялі, або знаходзяцца ў працэсе ўвядзення ў дзеянне заканадаўчых актаў, што тычацца міграцыі і бежанцаў. У адпаведнасці з Праграмай дзеянняў большасць дзяржаў СНД стварылі ўрадавыя механізмы па каардынацыі міграцыі.

## ГОСЦЬ

## Яўгеніюш ЧЫКВІН: «У ПЛАНАХ – АЛЬБОМ СВЯТЫНЯЎ ВКЛ»

Пачатак на 1-й стар.

Асабіста мяне ў Мінску чакала прыемная падзея: згодна з пастановай Свяцейшага Патрыярха Аляксія II мне ўручылі высокую ўзнагароду — ордэн Рускай праваслаўнай царквы ў імя Святога Роўнаапостальнага князя Уладзіміра трэцяй ступені. Гэта ўзнагарода, як было сказана, за маю працу па збліжэнню польскай і рускай праваслаўнай царквы.

**— Як ажыццяўляецца супрацоўніцтва з Беларускай праваслаўнай царквой?**

— У пачатку 80-х гадоў я быў старшынёй Брацтва праваслаўнай моладзі Польшчы. Гэта было першае ў былым сацыялістычным лагеры праваслаўнае аб'яднанне моладзі. Мы назапасілі вялікі вопыт работы. І калі ў пачатку 90-х гадоў пазнаёміліся ў Беларусі з людзьмі, якія хацелі працаваць пры царкве і спрыяць нацыянальнаму і духоўнаму адраджэнню Беларусі, то з задавальненнем перадалі ім свой вопыт. Створанае Беларускае праваслаўнае брацтва ў імя трох Віленскіх мучанікаў стала нашым пастаянным партнёрам, у якога мы таксама вучыліся, бо сустрэлі тут высокаінтэлектульных людзей. У той жа час нарадзілася ідэя выдання часопіса "Праваслаўе" на беларускай мове, які таксама павінен быў садзейнічаць нацыянальнаму адраджэнню Беларусі. Адначасова ажыццяўлялася пераклад Евангелля, Біблії, царкоўных службаў на беларускую мову. Мы не хацелі, каб паўтарыўся сумны вопыт Беласточчыны, дзе некаторыя беларусы, адышоўшы ад праваслаўнай царквы, вельмі хутка апалячваліся. Гэтаму садзейнічалі і сродкі масавай інфармацыі Польшчы, якія падавалі Беларусь як краіну, дзе ўвогуле адсутнічае інтэлектуальнае жыццё. Выйсце было адно: і ў "Агледзе праваслаўным", і ў часопісе "Праваслаўе" змяшчаць максімум аб'ектыўнай інфармацыі пра Беларусь, што мы і робім. І гэта праца дае станоўчы вынік.

**— Што ў вашых бліжэйшых планах?**

— Ёсць задума выдаць высокамастацкі альбом аб праваслаўных архітэктурных святынях Вялікага княства Літоўскага. Гэта наша агульная гісторыя, і яе павінны ведаць як у Польшчы, так і ў Беларусі.

Што датычыцца далейшага супрацоўніцтва, то мы спадзяемся, што яно стане яшчэ больш грунтоўным пасля візіту ў Польшчу ў лістападзе бягучага года Мітрапаліта Філарэта.

Гутарыў **Яўген КАЗЮЛЯ.**
**Фота аўтара.**

## НОВАЯ БАЯВАЯ МАШЫНА 2Т



Мы ўжо пісалі (ГР № 42) пра новую машыну для разведкі і дыверсійных аперацый у глыбокім тыле праціўніка, створаную спецыялістамі прадпрыемства "Мінатор-Сэрвіс" у кааперацыі з расійскімі і ўкраінскімі партнёрамі. Машына здольная развіваць хуткасць каля 100 кіламетраў у гадзіну, мае самае сучаснае ўзбраенне: аўтаматычную пушку, супрацьтанкавую і зенітную, ракетную ўстаноўкі, аўтаматычны гранатамёт. Асаблівасцю новай баявой машыны з'яўляецца тое, што яна выраблена з выкарыстаннем тэхналогіі "Стэлс", а гэта робіць яе малапрыметнай для радараў праціўніка.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**



ДАСЛЕДУЕМ ПРАБЛЕМУ: ХТО ДАПАМАГАЕ БЕЖАНЦАМ?

# МІГРАЦЫІ Ў СНД

## ЖЭНЕЎСКАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ

На працягу мінулага года прадстаўнікі краін СНД, іншых зацікаўленых дзяржаў і бакоў, адпаведных міжнародных арганізацый і няўрадавых арганізацый (НУА) абмяркоўвалі магчымыя шляхі дзейнасці, якая адпавядае стратэгіі Канферэнцыі па краінах СНД, пасля 2000 года. У чэрвені 1999 года ў адпаведнасці з рэкамендацыямі Кіруючай групы была створана Рабочая група, пасяджэнні якой адбыліся ў кастрычніку 1999 года, у сакавіку і маі 2000 года. Акрамя таго, двойчы склікаліся неафармальныя сустрэчы членаў Рабочай групы, што было выклікана надзвычайнай актуальнасцю пытанняў, якія абмяркоўваліся.

Нягледзячы на поспехі ў інстытуцыйнай сферы, урады краін СНД указвалі на праблемы каардынацыі работы адпаведных урадавых органаў, што задзейнічаны ў пытаннях міграцыі і абароны. Яны адзначалі абмежаваныя фінансавыя магчымасці ў якасці галоўнай перашкоды на шляху выканання заканадаўства і палітыкі. Гэтыя перашкоды часткова прывялі да тых праблем у выкананні законаў, якія зараз маем.

Зладжаная праца па прыярытэтных накірунках, вызначаных у Праграме дзеянняў, патрабавала засяроджвання ўвагі на такіх баках дзейнасці, як папярэджванне і ўрэгуляванне канфліктаў, супрацоўніцтва паміж урадамі краін СНД, міжнароднымі і няўрадавымі арганізацыямі, зацікаўленымі ведамствамі і групамі.

У адпаведнасці з рэкамендацыямі Кіруючай групы былі выпрацаваны канкрэтныя планы. Яны ў фокусе працэсу кіравання міграцыяй, уключаючы барацьбу з нелегальнай міграцыяй, асабліва жанчын, будуць адлюстроўваць замацаванне дасягненняў у дзейнасці сектара НУА і грамадства. У будучыні працэс засяродзіцца на структурных пытаннях, якія ўключаюць стварэнне Рабочых груп экспертаў па тэматычных пытаннях.

Працэс Канферэнцыі ў 1996—2000 гадах аказаў станоўчы ўплыў на праявдзенне ў Рэспубліцы Беларусь актыўнай міграцыйнай палітыкі.

Практычна цалкам сфарміравана міграцыйнае заканадаўства: Закон Рэспублікі Беларусь "Аб бежанцах" (1995 год); Закон Рэспублікі Беларусь "Аб знешняй працоўнай міграцыі" (1998 год); Закон Рэспублікі Беларусь "Аб іміграцыі" (1998 год); Закон Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змен і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб бежанцах", які зацвердзіў новую рэдакцыю Закона.

Сфарміравана і функцыяніруе сістэма дзяржаўнай міграцыйнай службы краіны пры каардынацыі з боку Міжведамаснай камісіі па пытаннях міграцыі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

З 1997 года праводзіцца працэдура прызнання бежанцам (Камітэтам па міграцыі ў Мінску, з 1 чэрвеня 1998 года на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь тэрытарыяльнымі органамі па міграцыі).

Улічваючы, што Беларусь — транзітная краіна, актуальнай застаецца праблема нелегальнай міграцыі. Пашыраецца праца, якая праводзіцца з бежанцамі.

Пры распрацоўцы заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб бежанцах былі ўлічаны нормы і прынцыпы міжнароднага права. Зараз вядзецца работа па далучэнню Рэспублікі Беларусь да Канвенцыі ААН 1951 года аб статусе бежанцаў і Пратакола 1967 года аб статусе бежанцаў.

Унікальнасць геапалітычнага і стратэгічнага становішча нашай дзяржавы ў Еўропе ўплывае на агульную міграцыйную сітуацыю і звязаныя з ёю стабільнасць і бяспеку ў рэгіёне.

Трэба спадзявацца, што намаганні Рэспублікі Беларусь па вырашэнню праблем мігрантаў і бежанцаў будуць належным чынам ацэнены і падтрыманы сусветнай супольнасцю.

Падрыхтавала
**Алена КОНАНАВА.**

# О БЕЖЕНЦАХ

## ЗАКОН РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

*(17.06.1999)*

исполнять иные обязанности, предусмотренные законодательством и международными договорами Республики Беларусь для иностранных граждан и лиц без гражданства, постоянно проживающих в Республике Беларусь.

Постановка на учет иностранца, признанного беженцем, в территориальном органе по миграции является основанием для временной регистрации сроком до ста восьмидесяти суток данного иностранца и членов его семьи в органе внутренних дел по месту пребывания и последующего оформления в установленном порядке вида на жительство.

**Статья 13. Ограничение прав иностранца, обратившегося с ходатайством о признании его беженцем, и беженца**

Права иностранца, обратившегося с ходатайством о признании его беженцем, и беженца могут быть ограничены только в случаях, предусмотренных законом, в интересах национальной безопасности, общественного порядка, защиты нравственности, здоровья населения, прав и свобод других лиц.

**Статья 14. Утрата иностранцем статуса беженца и лишение иностранца статуса беженца**

Иностранец утрачивает статус беженца:

после получения разрешения на постоянное жительство на территории Республики Беларусь по основаниям, не связанным со статусом беженца, либо при приобретении гражданства Республики Беларусь;

если снова добровольно воспользовался защитой государства своей гражданской принадлежности;

если, лишившись своего гражданства, снова его добровольно приобрел;

если приобрел гражданство другого государства и пользуется защитой государства своей новой гражданской принадлежности;

если добровольно вновь обосновался в государстве, которое покинул или вне пределов которого пребывал вследствие опасений преследований по обстоятельствам, предусмотренным абзацем вторым статьи 2 настоящего Закона;

если не может больше отказываться от пользования защитой государства своей гражданской принадлежности, территорию которого вынужден был покинуть по обстоятельствам, предусмотренным абзацем вторым статьи 2 настоящего Закона, в связи с тем, что данные обстоятельства более не существуют;

если не имеет определенного гражданства и может вернуться в государство своего прежнего обычного местожительства в связи с тем, что обстоятельства, предусмотренные абзацем вторым статьи 2 настоящего Закона, в данном государстве более не существуют.

Иностранец лишается статуса беженца, если он:

сообщил заведомо ложные сведения либо предъявил поддельные документы, послужившие основанием для признания его беженцем;

создает угрозу национальной безопасности, общественному порядку, здоровью населения Республики Беларусь.

Решение об утрате иностранцем статуса беженца или о лишении иностранца статуса беженца принимается республиканским органом государственного управления по миграции по представлению органов государственного управления, определенных в статье 6 настоящего Закона, или территориальных органов по миграции.

Уведомление об утрате иностранцем статуса беженца либо о лишении иностранца статуса беженца с указанием причин принятого решения об утрате статуса беженца либо о лишении статуса беженца и порядка его обжалования вручается или направляется данному иностранцу республиканским органом государственного управления по миграции либо территориальным органом по миграции в течение пяти рабочих дней со дня принятия решения.

Территориальный орган по миграции информирует органы внутренних дел о принятом окончательном решении об утрате иностранцем статуса беженца или о лишении иностранца статуса беженца.

В случае утраты иностранцем статуса беженца или лишения иностранца статуса беженца удостоверение сдается в территориальный орган по миграции или республиканский орган государственного управления по миграции и признается республиканским органом государственного управления по миграции недействительным.

Иностранец, утративший статус беженца или лишенный статуса беженца по обстоятельствам, предусмотренным частью первой или второй настоящей статьи, не использующий право на обжалование решения об утрате статуса беженца или о лишении статуса беженца в соответствии со статьей 15 настоящего Закона, а также не имеющий иных законных оснований для пребывания на территории Республики Беларусь, обязан покинуть территорию Республики Беларусь совместно с членами его семьи по истечении месячного срока со дня получения уведомления об утрате статуса беженца или о лишении статуса беженца.

Иностранец, утративший статус беженца или лишенный статуса беженца по обстоятельствам, предусмотренным частью первой или второй настоящей статьи, и члены его семьи после окончательного решения теряют право на пользование жилым помещением, предоставленным областным или Минским городским исполнительным комитетом для временного поселения.

**Статья 15. Гарантия прав иностранцев, ходатайствующих о признании их беженцами, и беженцев**

Иностранец, ходатайствующий о признании его беженцем, признанный беженцем, утративший статус беженца или лишенный статуса беженца, не может быть возвращен или выслан против его воли на территорию государства, где его жизни или свободе угрожает опасность преследований по признакам расы, религии, гражданства, принадлежности к определенной социальной группе или политических убеждений.

Сведения об иностранцах, ходатайствующих о признании их беженцами, а также иностранцах, признанных беженцами, не могут быть предоставлены властям и общественным организациям государства их гражданской принадлежности (их прежнего обычного местожительства) без письменного согласия данных иностранцев.

**Працяг. Пачатак у №№ 40—44.**

ВІВАТ БДУ!



Пачатак на 1-й стар.

У 79-ю гадавіну з дня стварэння БДУ ва універсітэце з'явіліся свае сцяг і сімвал.

На ўрачыстым пасяджэнні вучонага савета былі ўручаны дыпломы прафесараў і дацэнтаў. Знамянальная гэтая падзея і тым, што вучоны савет Беларускага дзяржаўнага універсітэта атрымаў права прысвойваць вучоныя званні. БДУ — адзіная навучальная ўстанова ў краіне, якая валодае такой прывілеяй, падкрэсліў рэктар Аляксандр Казулін.

НА ЗДЫМКАХ: прафесары БДУ; урачысты момант.

ЗДАРЭННІ

● *Людміла АЎДЗЕЕВА, прэс-сакратар Вярхоўнага суда.*

# ХТО ЗАБІЎ АЙЦА МІХАІЛА?

Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь разглядзеў па касацыйнай скарзе справу былога дыякана Генадзя Калеснікава, асуджанага прыгаворам Брэсцкага абласнога суда да 20 гадоў пазбаўлення волі за забойства настаяцеля Свята-Мікалаеўскай царквы айца Міхаіла.

Генадзь Калеснікаў вінаватым сябе ва ўчыненні гэтага жорсткага злачынства не прызнае і сцвярджае, што даў паказанні следчым органам пад псіхалагічным уздзеяннем і пагрозай фізічнай расправы.

Былому дыякану абвінавачанне было прад'яўлена больш чым праз год пасля трагічнай падзеі. У аўтамабілі, у якім быў знойдзены труп Міхаіла Сацюка, адпячаткаў пальцаў Калеснікава не знойдзена. Пры правядзенні следчых эксперыментаў, як сцвярджае асуджаны, яму падказвалі, што гаварыць, і абыходзіліся як са статыстам, які "іграў" ахвяру. Да таго ж сляды заточанага з двух бакоў з тонкім лязом нажа, якім быў забіты айцец Міхаіл, па заключэнню экспертызы, не адпавядаюць нажу, прадстаўленаму ў якасці рэчавага доказу. І зброяй злачынства гэты нож прызнаны быць не можа.

Падазрэнне ў забойстве ўпала на дыякана Генадзя, бо паміж ім і Сацюком былі "напружаныя" адносіны. Дыякан меў неасцярожнасць адпускаць "жарты" ў прысутнасці настаяцеля, за што быў пераведзены ў Кобрын, дзе і служыў у час гэтых падзей.

З царкоўнага сейфа Сацюка, у якім захоўваліся вялікія сумы валюты і залатыя вырабы і пласціны, частка грошай прапала. Але па выкраданню грошай з царкоўнага доміка Калеснікаў апраўданы з-за неўстанаўлення факта злачынства. Ці будзе яшчэ раз даказана яго дачыненне да забойства, пакажа час. Судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда прыйшла да высновы, што ў парушэнне артыкула 15 УПК органы папярэдняга следства і суд акалічнасці справы даследавалі няпоўна, і вырашыла прыгавор Брэсцкага абласнога суда ў частцы асуджэння Генадзя Калеснікава за забойства Міхаіла Сацюка адмяніць і накіраваць справу на новае расследаванне Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь.

**ДАПАМАЖЫ САБЕ САМ**



# УМЕННЕ КІРАВАЦЬ ЗДАРОЎЕМ,

## або ЯК Мікалай АРЫНЧЫН Джорджа БУША ВЫЛЕЧЫЎ

I сапраўды вылечыў. Хоць і не выязджаў у Злучаныя Штаты Амерыкі з роднай Беларусі. Адбылося гэта ў пачатку 90-х гадоў. У той час у сродках масавай інфармацыі сістэматычна з'яўляліся паведамленні аб прыхільнасці да здаровага ладу жыцця сорак першага прэзідэнта ЗША, 65-гадовага Джорджа Буша, які кожную раніцу рабіў прабежкі.

Член-карэспандэнт Акадэміі навук Рэспублікі Беларусі, фізіёлаг Мікалай Арынчын, паглядзеўшы адзін з такіх сюжэтаў, не паленаваўся і напісаў Джорджу Бушу пісьмо з перасцярогай, што ранішні бег у яго ўзросце вельмі небяспечны для здароўя, і параіў бегаць вечарам. Апрача таго, Мікалай Іванавіч прапанаваў прэзідэнту ЗША шэраг практыкаванняў і рэкамендацый, заснаваных на распрацаванай вучоным методыцы, названай ім "гомакібернетыка" ("гомо" — чалавек, "кібернетыка" — кіраванне). Гэта ўменне кіраваць здароўем і даўгалеццем, абапіраючыся на новыя навуковыя даныя пра ролю шкілетных мышцаў у кровазвароце.

У 1991 годзе, за два месяцы да таго, як амерыканскі прэзідэнт першы раз трапіў у шпіталь, беларускі вучоны напісаў яму пісьмо з перасцярогай, што калі ён не будзе выконваць рэкамендацыі, то сур'ёзна захварэе. Але, на жаль, перасцярога прыпазнілася, і ў Буша сапраўды ўзнікла арытмія сэрца. Мікалай Арынчын зноў паслаў яму інструкцыю праз пасольства. Прайшоў некаторы час, і сродкі масавай інфармацыі паведамілі, што прэзідэнт адчувае сябе добра. Праўда, журналістам не расказалі пра адну дэталь — удзячнае пісьмо памочніка Буша беларускаму фізіёлагу Арынчыну, у якім паведамлялася, што амерыканскія медыкі выкарысталі рэкамендацыі беларускага вучонага, якія аказаліся вельмі эфектыўнымі...

У пачатку 70-х гадоў смяротнасць ад хваробы сістэмы кровазвароту ў развітых краінах была на першым месцы — 50 працэнтаў. Урады гэтых краін вырашылі, што прыйшоў час тэрміновых мер. У ЗША, Фінляндыі, Канадзе былі прыняты нацыянальныя праграмы па барацьбе з хваробамі сістэмы кровазвароту. І за невялікі адрэзак часу дабіліся значных поспехаў.

"І нам трэба браць з іх прыклад, — сцвярджае Мікалай Іванавіч, — таму што сардэчна-сасудзістыя захворванні страшнейшыя за інфекцыйныя з-за іх спадчыннасці. Мы губляем генетычны фонд, а гэта неабарачальны працэс".

Адкрыццё вучонага звязана з элементарным разлікам. Вызначаючы сілу сэрца, кіраўнік групы "Экстракардынальныя механізмы кровазвароту" Інстытута фізіялогіі Акадэміі навук Беларусі, Мікалай Арынчын прыйшоў да высновы, што сэрцу не хапае энергетычных магчымасцей для падняцця крыві ад ступней ног чалавека, які стаіць, да ўзроўню грудной клеткі. А ва ўсім гэтым "матору" дапамагаюць шкілетныя мышцы.

Пэўныя здагадкі ў свой час выказвалі вядомы вучоны Гарвей, які адкрыў болей за 300 гадоў назад кровазварот, наш суайчыннік Яноўскі, які прапанаваў тэрмін "перыферычнае сэрца". Даказаць і ўстанавіць механізм работы шматлікіх памочнікаў сэрца ўдалося толькі нядаўна. Гіпотэза аб вібрацыйным дзеянні шкілетнай мышцы пацвердзілася і тэарэтычнымі разлікамі, і доследамі на жывёлах, і абследаваннем людзей. Усе 1 118 шкілетных мышцаў чалавека складаюцца з валокнаў, якія ў розны час скарачаюцца і, дзякуючы гэтаму, прымушаюць кроў рухацца хутчэй. Калі пастаянна і ў меру займацца фізкультурай, то развіваюцца "перыферычныя сэрцы" і зберагаецца асноўнае.

У нашай краіне кабінет гомакібернетыкі ўжо некалькі гадоў паспяхова дзейнічае ў санаторыі-прафілакторыі "Світанак", які належыць мінскаму аб'яднанню "Гарызонт". Вынікі перавышаюць усе чаканні.

Асаблівую ўвагу прыхільнікі здаровага ладу жыцця звяртаюць на дзяцей. Важна паклапаціцца пра развіццё "перыферычных сэрцаў" у школьныя гады, калі шмат часу дзеці праводзяць за партай. Група вучоных нават распрацавала метадычныя рэкамендацыі, якія, дарэчы, былі адобраны Міністэрствам адукацыі і разасланы па школах. Некаторыя школы Мінска, Бераставіцкага раёна Гродзенскай вобласці падтрымалі рэкамендацыі і пачалі праводзіць фізкультуру па гэтай методыцы ў 1989—90 навучальным годзе. У гэтых школах знізілася захворванне да 30 працэнтаў (і гэта на фоне росту захворвання па рэспубліцы на 1—1,5 працэнта).

"Цяпер трэба, каб фізкультура па гэтай методыцы была распаўсюджана па ўсіх школах рэспублікі. Але Міністэрства адукацыі лічыць, што яно адказвае толькі за якасць адукацыі, а не за здароўе. Выйшлі на Прэзідэнта: прадставілі праект праграмы здаровага ладу жыцця. Прэзідэнт праграму зацвердзіў... Але да ўкаранення яе яшчэ далёка", — заклапочаны вучоны.

— Мікалай Іванавіч, растлумачце, калі ласка, у чым заключаюцца асноватворныя прынцыпы і методыка гомакібернетыкі?

— Вядома, што вянозная кроў з сасудаў галавы, шыі, верхняй часткі тулава ў сілу зямнога прыцягнення сама прыцякае да сэрца. А вось кроў з капіляраў ніжніх канечнасцей сэрца не можа падняць да сябе. Яму патрэбна дапамога. У выніку шматлікіх даследаванняў высветлілася, што вянозную кроў падымаюць раней невядомыя шматлікія (болей за тысячу) "перыферычныя сэрцы" (ПС), а таксама вядомыя грудная, брушная, дыяфрагмальная і вянозныя помпы (ВП). ВП утвараюцца пры сціскванні шкілетнымі мышцамі буйных вен з клапанамі, дзякуючы чаму кроў накіроўваецца да сэрца.

З дапамогай шкілетных мышцаў, выкарыстоўваючы дазіраваную фізічную нагрузку, чалавек можа кіраваць сэрцам і сасудамі. Займацца гомакібернетыкай неабходна з раніцы, адразу пасля сну. Мэта — прымусіць працаваць усіх памочнікаў сэрца, якія ў час сну адпачывалі, а сэрца працавала. У час сну кровазабеспячэнне органаў зніжаецца, а такія важныя элементы крыві, як эрытрацыты і лейкацыты адкладваюцца ў печані, селязёнцы. Кроў становіцца больш рэдкай, і сэрцу лягчэй праганяць яе па сасудах. Прачнуўшыся, трэба гэтыя элементы крыві, што зберагаліся ў "дэпо", перавесці ў крывяное рэчышча, "прамыць", "прамасажыраваць" унутраныя органы, запусціць у работу памочнікаў сэрца — грудную, брушную і дыяфрагмальную помпы, узмацніць кровазабеспячэнне найперш галаўнога мозга. Таму рэкамендую выконваць пасля абуджэння наступныя практыкаванні:

♦ *Сесці на мяккі пуфік, выцягнуць ногі і ўперціся ў што-небудзь. Адхіляючыся назад, выконваючы павароты тулава па чарзе ў розныя бакі, вярнуцца ў зыходнае становішча.*

♦ *Прымусіць працаваць ПС і ВП ніжніх канечнасцей з дапамогай прысяданняў з утрыманнем тулава ў вертыкальным становішчы, апусціўшы рукі на калені.*

♦ *Трэніроўка ПС і ВП у выглядзе розных рухаў (можна з гантэлямі).*

♦ *Трэніроўка ПС і ВП шыі з дапамогай паваротаў галавы ў розныя бакі.*

♦ *Самамасаж шыі, галавы, слыхавога праходу і вушных ракавін.*

♦ *Масаж скуры ад пальцаў ног і рук у напрамку сэрца (пры адсутнасці варыкозных расшырэнняў вен, тромбафлебіту і захворванняў скуры).*

Усе практыкаванні рабіць у гэтай паслядоўнасці не меней трох разоў у суткі перад ядой.

Мікалай Арынчын прапаноўвае спосабы трэніроўкі перыферычных "сэрцаў" для людзей разумовай працы, якія многа часу праводзяць за сталом.

♦ *Найперш трэба навучыцца бесперапынна варушыць пальцамі ног, рабіць веласіпедныя рухі нагамі, не адрываючы іх ад падлогі. Мышцы будуць скарачацца і падымаць вянозную кроў да сэрца, аблягчаючы яго работу.*

♦ *Скарачаць ягадзічныя мышцы, каб не было застою вянознай крыві.*

♦ *Скарачаць мышцы жывата і масіраваць унутраныя органы.*

♦ *Рабіць розныя рухі тулавам.*

♦ *Перыядычна рабіць глыбокія дыхальныя практыкаванні. Апускаючыся, дыяфрагма націскае на ўнутраныя органы брушной поласці, выціскаючы з іх вянозную кроў у грудную поласць, а затым да сэрца, адначасова масіруючы ўнутраныя органы. Пашырэнне ж грудно[й] клеткі разраўноўвае лёгкі[я], прыцягвае да іх кроў, таксама аблягчаючы работу сэрца.*

♦ *Рухаць правым і левым плячом па чарзе ці разам. Скарачаць мышцы спіны і лапатак, зблiжаючы ці разводзячы іх.*

♦ *Працаваць пальцамі рук, сціскаючы кісці ў кулак, скарачаючы мышцы пляча і перадплечча.*

♦ *Скарачаць мышцы шыі з адхіленнем і вярчэннем галавы ў розныя бакі. Рабіць самамасаж мышцаў шыі, асновы чэрапа і галавы.*

♦ *Масіраваць слыхавы праход і вушныя ракавіны.*

♦ *Седзячы, прыпаднімацца на сагнутых нагах, распрамляць грудзі, закідваючы галаву, распрамляць і падаўжаць цела.*

— Вельмі хутка, калі будзеце выконваць гэтыя парады, вы адчуеце сябе бадзёрым і здаровым, — абяцае вучоны.

**Пётр ЖЭБРА[К]**

**АСПЕКТ ПРАБЛЕМЫ**

# ЦІ ВАРТА ЖЫЦЬ ДА 100 ГАДОЎ?

## БОЛЬШ ЗА 20 ПРАЦЭНТАЎ НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСІ — ПЕНСІЯНЕРЫ

Як адрозніваюцца беларусы сталага ўзросту ад сваіх еўрапейскіх суседзяў! Нашы бабулькі і дзядулі на вёсцы трымаюць гаспадарку, пакуль маюць хоць нейкія сілы, а ўзімку жывуць на бульбе з салёнымі агуркамі і сале, даглядаюць жывёлу, паляць печ і чакаюць дзяцей у госці. Калі тыя прыязджаюць, частуюць чым толькі могуць і з сабой нешта даць імкнуцца.

Еўрапейскія дзядулі і бабулі вандруюць па свеце. Яны таксама любяць сваіх дзяцей, але ўмеюць жыць для сябе. Яшчэ адно адрозненне, якое тычыцца асабліва жанчын. Заўсёды сярод іх было прынята ўтойваць свой узрост. І еўрапейскія пажылыя дамы з макіяжам і пацеркамі, у прыгожым адзенні — не выключэнне. Нашы ж жанчыны так стомлены жыццём, што, здаецца, зусім не думаюць пра сваю знешнасць.

Ва ўсім свеце ганарацца здароўем. Беларускія пенсіянеры валам валяць у інваліды. Навошта? Звычайныя для старога чалавека хваробы сэрца, сасудаў патрабуюць дарагіх лекаў. А па "Закону аб сацыяльнай абароне" інваліды маюць значныя льготы на атрыманне медыкаментаў (частка даецца зусім бясплатна). Вось і выйсце: каб паўнацэнна лячыцца, трэба станавіцца інвалідам. Пенсіі ж ледзь хапае, каб пракарміцца. Па словах Віктара Камбанава, начальніка Упраўлення медыка-сацыяльнай рэабілітацыі і экспертызы, пасля прыняцця некаторых неабдуманых пунктаў закона ў краіне быў рэзкі ўсплёск звароту людзей пенсійнага ўзросту наконт інваліднасці. Такім чынам, сістэма сацыяльнай дапамогі яшчэ раз не спрацавала.

Старым людзям неабходна матэрыяльная, медыцынская дапамога, рэабілітацыя. Для Беларусі ўсе гэтыя праблемы вельмі актуальныя, бо мы — краіна пажылых. Ва ўсім свеце назіраецца тэндэнцыя да старэння насельніцтва. На Беларусі 21,4 працэнта ад яго колькасці — пенсіянеры (большая частка — 75 працэнтаў — жанчыны). Год таму ў нас было 1 000 чалавек, старэйшых за 100 гадоў. Цяпер такіх людзей — 870. Інакш кажучы, людзей, якія жывуць доўга, становіцца ўсё меней. Прычына: узровень жыцця, які паніжаецца, немагчымасць для многіх атрымаць высокакваліфікаваную медыцынскую дапамогу.

Галоўнае ж для чалавека — зусім не дасягненне 100 і больш гадоў. Важней захаваць паўнацэннае жыццё да старасці. Менавіта гэтай задачы і падпарадкоўваецца створаная ў Беларусі герыятрычная служба. Яшчэ ў 1993 годзе была распрацавана рэспубліканская комплексная праграма па праблемах пажылых людзей. У рамках яе ўжо падрыхтавана 450 дактароў, якія спецыялізуюцца па герыятрыі. Цяпер такія ўрачы ўводзяцца ў штат клінік, калі яны абслугоўваюць шмат старых. Вясковыя бальніцы на Беларусі па сваёй сутнасці з'яўляюцца герыятрычнымі. Не таму, што там працуюць спецыялісты ў гэтай галіне, а з-за паважанага ўзросту бльшасці пацыентаў. Не сакрэт, што бабулькі і дзядулькі імкнуцца туды, каб перажыць нейкую частку зімы. Але ўмовы ў сельскіх бальніцах — часта няма водаправода, цэнтральнага ацяплення — вельмі неспрыяльныя для пажылых. "Там амаль немагчыма лячыцца маладым, не тое што старым людзям", — кажа на гэты конт прафесар, галоўны пазаштатны спецыяліст па герыятрыі Міністэрства аховы здароўя Уладзімір Сыты.

Тым не менш пазіцыя Міністэрства аховы здароўя такая: недапушчальная дыскрымінацыя па ўзросту. Гэта значыць, што кожны хворы, якому патрэбна шпіталізацыя, павінен трапіць у бальніцу незалежна ад свайго ўзросту. Але тут ёсць два нюансы. Першы. Такая дыскрымінацыя можа быць скрытай. Цяжка даказаць, што табе належыць ехаць у шпіталь, калі маеш 85 гадоў, а малады доктар з "хуткай дапамогі" ўпэўнена кажа: "Ляжы, дзядок, дома", разумеючы пад гэтым: "Няма розніцы, дзе памерці". На барацьбу за свае правы ў старых няма сіл. Другі нюанс: урач ніколі не адмовіўся б везці ў шпіталь чалавека, калі б ведаў, што там яму ў стане дапамагчы — хопіць месца, лекаў, абсталявання. І вядома ж, старых не хочуць забіраць у бальніцу, бо баяцца праблем, звязаных з іх узростам. Маецца на ўвазе доўгі тэрмін знаходжання ў стацыянары, складанасці па догляду. Ды і агульныя паказчыкі клінік такія пацыенты не паляпшаюць. Так што дыскрымінацыя па ўзросту ў сістэме аховы здароўя будзе доўжыцца, пакуль не палепшыцца эканамічная сітуацыя ў краіне.

Для чалавека як біялагічнага (!) віду, па словах Уладзіміра Сытага, значна больш выгадна раней пачынаць рэпрадуктаваць патомства і завяршаць жыццё да 30 гадоў. Тады кожная новая генерацыя будзе больш моцнай і зможа лепш прыстасоўвацца да навакольнага асяроддзя. Але мы ж не толькі прадстаўнікі млекакормячых. Людзі вераць у існаванне душы. Многія — яшчэ і ў інстытут дзяржавы. Абавязкі яе, дарэчы, і ў тым, каб стварыць сістэму, пры якой сацыяльная абарона будзе дзейснай і мэтанакіраванай.

Большасць людзей спадзяецца дажыць да старасці. Так што праблемы пажылых і герыятрыі — праблемы кожнага з нас.

**Алена СПАСЮК.**



НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ БЕЛАРУСІ

# ПРЫГОДЫ Алеся САВІЦКАГА І МУРКІ

Алесь Савіцкі — вельмі цікавы чалавек. Прыгожы, узнёслы, працавіты, з юначым успрыняццем жыцця, а галоўнае, ён ніколі не здраджвае сваім жыццёвым прынцыпам. Юнаком стаў партызанам, быў у дзеючай арміі, дайшоў да Берліна. Зусім нядаўна яму ўручылі, хоць і са спазненнем, ордэн Славы — вельмі ганаровую ўзнагароду. Найбольш радаваўся ўнук Жэнька, які вельмі любіць і ганарыцца сваім дзедам, бо ён для яго — вялікі аўтарытэт.

Алесь Савіцкі за сваё жыццё стварыў шмат цікавых кніг. Памятаю, у маладосці прачытала яго раман "Жанчына", напісаны ў лепшых традыцыях французскіх твораў пра каханне. Вельмі многа кніг пра вайну, юных падпольшчыкаў Обалі, мірнае жыццё, складанае і цікавае, — на рахунку пісьменніка.

Алесь Савіцкі — чалавек добры і спагадлівы. На дачы ў яго жыве сабака Лінда, які не дае ступіць без яго ні кроку свайму гаспадару. А колькі птушачак, што выпалі з гнязда, выхадзіў ён! Я бачыла, як на полі, калі Алесь Савіцкі прысеў крыху адпачыць і палюбавацца лугам з дубамі, літаральна да яго ног прыбегла перапёлачка і загадала: "Жаць-палоць".

А колькі вогнішчаў мы палілі разам з Алесем Савіцкім і Жэнькам. Хлопчык шмат ведае, цікавы расказчык. Гэтым летам з маімі ўнучкамі Настай і Лізай і з Ягорам — унукам пісьменніка Алеся Жука не толькі даглядалі чатырох малых кацянятак, але і ставілі спектаклі. Ці стане Жэня рэжысёрам — пакажа час. Пакуль ён марыць пра неба — хоча стаць ваенным лётчыкам. Упэўнена, што добрым чалавекам, вартым дзеда, ён абавязкова вырасце.

Нашым братам меншым пісьменнік прысвяціў шмат цікавых кніжак. Адна з іх — "Прыгоды Муркі" — вылучана на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Калі Алесь Ануфрыевіч падарыў яе маёй старэйшай унучцы Настачцы, яна прачытала кніжку залпам. У Насты дзед Вова і тата Андрэй — паэты. Яна і сама нядаўна "сорила стихами".

Зацікавілася я гэтай дзіцячай кніжкай, бо таксама люблю кошак і сабак, увесь час падкормліваю іх, а зімой — сінічак ды іншых птушак. Кніга ўразіла мяне сваім сюжэтам, спагадлівымі, мудрымі і добразычлівымі "героямі". Жывёлы, як і дзеці, добра разбіраюцца ў людзях. Калі на брамцы напісана: "Асцярожна, злы сабака!", значыць, такі гаспадар, а не сабака.

...Заблудзілася кошка Мурка, адстала ад гаспадароў-рыбакоў. Па доўгай дарозе дадому яна сустрэла столькі сапраўдных сяброў! Вавёрачка-мама так ласкава даглядала хворую Мурку, нават абдзяляючы ўвагай сваіх уласных дзетак. Справядлівы барсук, высакародны кот Маркіз, які па-джэнтльменску аберагаў Мурку, ахвяруючы сваім уласным жыццём... "Вось каб людзі так ставіліся адзін да аднаго, даўно б на зямлі ўсталяваўся рай", — хоча сказаць пісьменнік.

Для мяне Алесь Савіцкі стаў у адзін рад з любімымі з дзяцінства пісьменнікамі М. Прышвіным, В. Біянкі.

**Валянціна СКАРЫНКІНА.**

АСОБА

# «СМУГОЙ ДАРОГА АПАВІТА»



**Васілю Жуковічу — 60. Ён прыйшоў на гэту зямлю ў апошні перадваенны год у ціхай вёсачцы Забалоцце, што на Брэстчыне, якая жыла сваім жыццём сярод балот, атуленая зелянінай дрэў. "Шчаслівы той, хто вырас у родным краі, увабраў сваёй душою чысціню яго крыніц, пах кветак, зямлі і неба вышыню, — радзіма ў чалавека адна, адвечная, непаўторная, як матчына песня", — успамінаў пісьменнік пазней.**

**Васіль Жуковіч — паэт вельмі шырокага творчага дыяпазону, яму падуладныя лірычныя, публіцыстычныя, жартоўныя вершы, байкі і прытчы, эпіграмы, а таксама вершы і проза для дзяцей. Яго вельмі хвалюе дзень сённяшні, маральныя і этычныя праблемы паўсядзённасці.**

**Творы Васіля Жуковіча, прысвечаныя дзецям, дапамагаюць малым авалодаць роднай мовай, пазнаёміцца з гісторыяй і культурай роднага краю, больш пільна назіраць за разнастайнымі праявамі навакольнага жыцця. Казкі, небылічкі, скорагаворкі, загадкі, вершаваныя лічылкі, жарты выклікаюць цікавасць і захапленне. Дык пажадаем жа Васілю Аляксеевічу творчых набыткаў, поспехаў, новых адкрыццяў на карысць Бацькаўшчыны.**

**Ірына КАЧАТКОВА.**

**Васіль ЖУКОВІЧ**

## ВЯНОК ДРУЖБЫ

*НАРОДАМ-СУСЕДЗЯМ*

Народы-суседзі, краіны-суседкі,
усіх вас пяшчотна да сэрца тулю.
Літва, лаба дэна!* Бог сведка —
шаную заўсёды цябе і люблю.

О, княжацкі люд! Край блакітна-зялёны!
Мы разам былі у стагоддзях сівых.
Мы блізкія духам. Дзівосны Чурлёніс
чаруе, як велічнасць храмаў тваіх.

О, Латвія, цуда дзяржава марская,
лаб дэн!* Чую, бачу здаля:
У Домскі сабор спеў аргана склікае.
І мора шуміць. І квітнее зямля

Дзень добры, о, Польшча! Варшава і
Кракаў,
радзіма Шапэна, паклон вам, паклон!
І замку Вавэлю: Міцкевіча прах там;
Міцкевіч — ліцвін, значыць,
родны нам ён.

Вітаю, Расія! І радасць, і скруха
валодае сэрцам: ты свету дала
Талстога і Пушкіна, волатаў духу,
ды й вешальніка
Мураўёва знайшла...

Маё шанаванне, сястра Украіна!
Твой мужнасці шлях,
ён няпросты такі!
Мазепы, Тараса Шаўчэнкі айчына
прыйшла да свабоды сваёй праз вякі.

Краіны-суседкі маёй Беларусі,
нам воляю лёсу навек побач жыць.
Ад слоў запаветных не адракуся —
давайце дружыць, непарыўна
дружыць.

## СОРАМ

*САНЕТ*

Вучыцель і мучыцель ты, мой сорам.
Ты — праўды друг і фальшу вораг.
Ты — плод сумлення ці ягоны корань!
Не ў стане жыць я без твайго дакору.

Ты — мая ўлада, я — твая пакора,
мая ахова ты, мая апора,
мой чуйны камертон у шчасці й горы,
ты — мой агмень і на агмені порах.

Гару за крок свой невысакародны,
за слова сваё рэзкае падчас,
за позірк неапраўдана халодны,

паспешны суд, марудлівы адказ,
за здрады блізкіх і заганы родных
і за дзяржаву родную не раз.

* * *

Бывай, бывай, дваццатае стагоддзе!
Душой збалелай не магу крывіць:
стагоддзе слёзаў горкіх і крыві,
на цяжкі смутак ты душу наводзіш.

Жах войнаў і рэпрэсій ці сыходзіць!
А чорны след чарнобыльскай бяды!..
Мая краіна, пойдзеш ты куды!
Няўжо ты здрадзіш праўдзе
і свабодзе!!

Як без паветра, я без іх загіну.
Дай веры: тут не пойдуць па касцях,
ты болей не заблудзішся, Краіна;

да сонца ўскінеш горды
продкаў сцяг,
з туману ірвануўшы на працяг, —
цябе даўно чакае шлях адзіны.

* Лаба дэна (laba dena) і лаб дэн (lab den) — добры дзень.

## РОДНАЯ МОВА

Нехта ад мовы сваёй адракаецца...
Прыкладу ты з яго б толькі не браў!
Ён пашкадуе яшчэ і пакаецца,
ён зразумее: сябе абакраў.

Родная мова — святыня народная.
Не параўнаецца золата з ёй!
Ззяе яна прыгажосцю прыроднаю,
зорнай высокай красою сваёй.

Толькі прыслухайся —
ў мове пачуецца
шолах жытнёвы і звон ручая,
роднага краю пяшчота адчуецца...
Непараўнаная мова твая.

Чыстая ўся, крышталёва крынічная,
спеўная і гаваркая яна,
і мілагучная, і меладычная,
водарам дыхае, быццам вясна.

Што за дзівак ад яе адракаецца!
Прыкладу ты з яго б толькі не браў!
Ён пашкадуе яшчэ і пакаецца,
ён зразумее: сябе абакраў.

## НА КІРМАШЫ

На кірмашы
людзей,
тавараў ходкіх — мора.
Народ ідзе-брыдзе,
А поруч — хлопчык хворы.

"Дзеля Хрыста прашу
ахвяраваць на лекі..."
Стаіць базарны шум,
снуюцца чалавекі.

Ліецца цераз край
на кірмашы раскоша:
што хочаш — выбірай,
адно выкладвай грошы.

Выкладваюць.
Бяруць
прысмакаў розных горы,
спяшаюцца, нясуць...
Што ім — чыёсьці гора!!

Няхай бароніць Бог
ад шчодрасці падобнай:
у хлопчыка ля ног
купюрак пара дробных.

Але з сынком малым
мадонна падыходзіць
і позіркам жывым
калеку ўміг знаходзіць.

— Чакай, пастой, сынок, —
яна хаду спыніла,
дастала кашалёк,
імгненна расшпіліла. —

Нясі, саколік мой,
аддай усё, што маем, —
абыдземся з табой,
я хутка атрымаю...

Нясе і аддае
сынок яе харошы
калеку ўсе яе
нястрачаныя грошы.

— Ах мой ты залаты! —
жаночы голас чуе. —
Дзіцятка, Бог святы
няхай цябе шануе!

І хваля цёплых слоў
дае малому крылы.
Забыць не зможа ён
учынак мамы мілай.

СПАДЧЫНА

# «ОЙ, КАЛЮЧЫ ЯЛАВЕЦ...»



У адной з песняў Францішка Багушэвіча — "Сватаны" — спяваецца:

*Ой, калючы ялавец, —*
*Ягадкі салодкія...*

Як згадваюць паэтавы родныя і блізкія, прынамсі ўнучка Станіслава Тамашэўская, ялавец (ядловец) быў адным з любімых Багушэвічавых дрэўцаў. Ён прываблівае яго сваімі незвычайна курчавымі шатамі. Яны нагадвалі яму барадатых гномікаў, параскіданых на пагорках. Калісь у Кушлянах іх было цэлае войска. Здавалася, калі-небудзь гэтае войска возьме і зрушыць з свайго месца. Тады трымайся, свет! Ну але гэта так толькі мроілася ў галаве. Ядлоўчыкі з кушлянскіх пагоркаў нікуды не краталіся. Адно толькі: з кожным годам іх усё прыбаўлялася ды прыбаўлялася. Але кушлянцы не наракалі. Галінкамі ядлоўчыку яны калісь вэндзілі кумпякі, саланінку. От жа яны смачныя ўдаваліся! Падабаўся Францішку Багушэвічу і водар самога гэтага дрэўца: такі смалiста казытлівы, які нагадваў пах "Шыпру". Ну а ўжо пра ядлоўцавыя ягады і казаць няма чаго! Яны і для вока любыя, і для здароўя карысныя. Наварам з іх некалі людзі лагодзілі хворыя ныркі. Якраз у апошнія гады Францішак Багушэвіч хварэў на ныркі і стараўся спажываць навар з ядлоўцавых ягад. А іх можна было збіраць не толькі ўвосень, але і зімою. Бывала, падыдзеш да заснежаных ядлоўцавых шатаў, разгорнеш, а там — аж чорна ад ягад. А калі ўважліва прыгледзішся, то сярод чорных з блакітным адлівам ягад можна было ўбачыць і зялёныя, і нават шэра-бурыя, сіне-чорныя. Гэта залежала, з якога года ягада. Чатыры гады трэба было, каб ягады ядлоўца выспелі. Затое сваімі лекавымі якасцямі пры прастудах яны не саступалі і маліне. А яшчэ з ядлоўцавых ягад рабілі квас, піва, морс!.. Ядловец у Кушлянах рос не толькі на аблыселых пагорках, але і ў лесе. Тым не менш, гаспадар Кушлянаў трымаў ядлоўчык і на сваёй сядзібе. Прынамсі, рассахаты ядловец рос некалі пры сядзібнай кушлянскай капліцы. Кажуць, што яго некалі пасадзіў сваёю рукою сам паэт. Згадваюць таксама, што родныя і блізкія, памятаючы пра вялікую паэтаву любасць да ядлоўчыка — гэтага нашага паўночнага кіпарыса, пасадзілі некалькі ядлоўчыкаў і пры песняровай магілцы.

Цяпер ні пры каплічцы, ні пры магілцы ніякіх ядлоўчыкаў няма. А дарэмна!

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

НА ЗДЫМКАХ: Багушэвічава сядзібная каплічка ў Кушлянах, збудаваная ў 1863 годзе; мінскай бібліятэцы "Юнацтва" прысвоена імя класіка беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча. Уладзімір СОДАЛЬ у час адкрыцця мемарыяльнай дошкі Ф. Багушэвіча на будынку бібліятэкі.

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ і Анатоля КАЛЯДЫ.**



ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

# АЎТОГРАФ ПАЭТКІ

У Ларысы Геніюш было шмат сяброў, але яшчэ больш прыхільнікаў яе таленту. Да паэткі прыходзілі і прыязджалі людзі з розных мясцін рэспублікі і розных краін. У гэтым плане не выключэнне горад Баранавічы. З многімі з гараджан яна была добра знаёмая, з асобнымі мела сяброўскія адносіны. Адзін з прыхільнікаў яе таленту — Валерый Палікарпаў, які пэўны час быў дырэктарам Баранавіцкага краязнаўчага музея. Дзякуючы яго намаганням, у музеі з'явіліся такія каштоўныя экспанаты, як слуцкія паясы і малюнкі Пятра Сергіевіча, у тым ліку "Арышт П. Багрыма".

Варта адзначыць, што ў хатняй калекцыі Валерыя Палікарпава сабрана больш за тысячу кніг з аўтографамі вядомых паэтаў, пісьменнікаў і мастакоў, сярод якіх Р. Раждзественскі, М. Танк, У. Караткевіч і іншыя.

Цяга да айчыннага прыгожага пісьменства прывяла яго ў свой час у хату Геніюшаў. Сустрэча адбылася. Чыталі вершы, абмяркоўвалі зборнік паэтэсы "Невадам з Нёмна".

Пасля гэтага візіту Палікарпава выклікалі ў гарком партыі, пацікавіліся:

— А чаму да Максіма Танка не паехаў?

— Быў і ў яго, — адказаў спакойна.

Знялі з пасады і выключылі з партыі. Многія тады адвярнуліся ад яго, але большасць сяброў выказвала салідарнасць.

Інтэлігентам быў і застаўся Валерый Палікарпаў, зараз выкладчык музычнай школы.

Аўтограф паэткі Ларысы Геніюш меў асаблівую цану...

**Пётр ЖЭБРАК.**

БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

# З ЮБІЛЕЕМ, Тамара СТАГАНОВІЧ!

*Сёлета спаўняецца 70 гадоў з дня нараджэння беларускай мастачкі з замежжа Тамары Стагановіч. Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, газета "Голас Радзімы" віншуюць юбілярку, жадаюць моцнага здароўя і творчага настрою.*



Нарадзілася Тамара Стагановіч 15.11.1930 года ў вёсцы Несутычы цяперашняга Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці ў сям'і былога пасла польскага сейма Аляксандра Стагановіча, вядомага ў Заходняй Беларусі грамадска-палітычнага дзеяча. Ад бацькі Тамары перадалося лагічнае мысленне, ад маці, таленавітай вышывальшчыцы, — творчыя здольнасці.

У гады Вялікай Айчыннай вайны сям'я Стагановічаў жыла ў Беларусі. Пакінула яе ў 1944 годзе. Спачатку выехалі ў Германію, дзе пасяліліся ў лагеры для перамешчаных асоб (Мітэнвальд, Баварыя). У Мітэнвальдзе Тамара скончыла Украінскую гімназію. З 1950 года сям'я жыла ў ЗША. У 1956-м Тамара стала грамадзянкай Злучаных Штатаў. У гэтай краіне завяршылася адукацыя мастачкі: Тамара скончыла ў Агаё Вестэрн каледж, дзе атрымала ступень бакалаўра, у Нью-Йорку — Інстытут мастацтва Калумбійскага універсітэта. Пасля заканчэння апошняга (1956) атрымала ступень магістра па мастацтву. Потым вучылася ў Мастацкай студэнцкай лізе (Нью-Йорк).

З 1955 года Т. Стагановіч удзельнічала ў групавых выставах. У 1968 годзе адбылася яе першая персанальная выстава ў галерэі Нью-Йорка. Мастачка была ўдзельніцай больш чым 100 выстаў у розных гарадах ЗША. Займаецца мастацтвам прафесійна — менавіта яно дае спадарыні Тамары сродкі на жыццё. Працуе ў некалькіх жанрах: як манументаліст, жывапісец, графік. У ЗША творчасць Т. Стагановіч досыць шырока вядомая аматарам мастацтва — яна ілюструе дзіцячыя кніжкі, робіць паштоўкі. У дзесятках яе жывапісных палотнаў знайшлі ўвасабленне новыя, нязвыклыя для амерыканцаў беларускія матывы. Прозвішча мастачкі ёсць у даведніках "Хто ёсць хто ў амерыканскім мастацтве". Т. Стагановіч — сябра шматлікіх мастацкіх клубаў.

Улетку 1993 года мастачка наведала Беларусь, прымала ўдзел у І з'ездзе беларусаў свету. Працы Т. Стагановіч выстаўляліся ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі. Трыпціх "Вера, Надзея, Любоў" перададзены ў дар Рэспубліцы Беларусь. 17 яе графічных твораў знаходзяцца ў музейнай экспазіцыі "Беларусы ў свеце" (Цэнтр імя Ф. Скарыны). Т. Стагановіч жыве ў Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі).

Творчую манеру мастачкі вызначаюць як абноўлены імпрэсіянізм. Т. Стагановіч плённа пераняла традыцыі выдатных прадстаўнікоў гэтага напрамку Дж. В. Тэрнера, Э. Манэ і іншых. Асабліва выразна імпрэсіяністычныя элементы выяўляюцца ў яе пейзажах, спецыфічнай адзнакай якіх сталі светлы каларыт, прыглушанасць, мяккасць фарбаў, размытасць вобразаў. Мастачка з поспехам працуе ў розных жанрах: акрамя пейзажаў, піша нацюрморты, акварэлі, стварае графічныя аркушы. Сярод найбольш вядомых жывапісных палотнаў Т. Стагановіч — творы "Вера, Надзея, Любоў", "Чырвоны камень, штат Мэйн", "Ручай зімою". "Зубры. Елаўстоўнскі нацыянальны парк, штат Ваёмінг", "Мае сосны". Мастачка тонка адчувае прыроду, шукае ў ёй і чалавечым грамадстве першародную чысціню, сваёй творчасцю спрабуе пераканаць гледача ў існаванні сусветнай музыкі-гармоніі: гучанне яе ў фарбах твораў Т. Стагановіч адначасова зямное і касмічнае. Натуральнае, арганічнае для творчасці мастачкі спалучэнне беларускага элемента з амерыканскім. Т. Стагановіч цікавіцца гісторыяй, традыцыямі беларускага і амерыканскага народаў. Прага духоўнай свабоды, любоў да Радзімы, вера ў свой народ натхняюць Тамару Стагановіч на стварэнне новых палотнаў.

**Святлана САЧАНКА.**



*Гарбузовы базар.*



*Волпі, рэзервацыя Гопі, штат Арызона. Алей.*



*Чыкары (сям'я рыжай ваверкі). Акварэль.*

З НОВЫХ ПЕСЕНЬ

## ДУМА ВІТАЎТА

*Словы А. ПІСЬМЯНКОВА.* *Музыка П. РУСАВА*




На харугву йдзе харугва,
І на рацьі кладзецца рацьі.
"Пастаім жа, браці-другі,
Яшчэ рана паміраць.
Вось рукой падаў знак вершнік
Над крывавай малацьбой.
І ажыў падляшскі латнік,
І паўстаў мсціслаўскі вой.

*Прыпеў:*
Чорны крыж на белым полі,
Край распяты на крыжы.
"Смерць ці воля, смерць
ці воля!" —
Грозна звоняць палашы.
"Смерць ці воля, смерць
ці воля!" —
Грозна звоняць палашы.

Вырашае меч булатны
І калёная страла...
Вырашае просты ратнік —
Сейбіт ціхага сяла.
І нястрымная Пагоня,
Што ўразаецца ў крыжы...
Не затопча нашы гоні
Чорны крыж і бот чужы!

*Прыпеў:*
Чорны крыж на белым полі...
Край распяты на крыжы.
"Смерць ці воля, смерць
ці воля!" —
Вырашаюць палашы.
"Смерць ці воля, смерць
ці воля!" —
Вырашаюць палашы.

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

ПОЛЬШЧА

## ЦЭНЯЦЬ СВАЯКА СЯБРЫ І ДЫПЛАМАТЫ

Мінулым летам грамадскасць Беластока годна адзначыла 75-годдзе з дня нараджэння вядомага грамадскага дзеяча і публіцыста Міхася Хмялеўскага, які выступае ў друку і пад псеўданімам Сваяк. З нагоды юбілею адбыліся ўрачыстасці ў рэдакцыі штотыднёвіка "Ніва" і ў праваслаўным брацтве. З віншаваннямі і падарункамі да шаноўнага імянінніка звярнуліся таксама старшыня і сакратар Галоўнага праўлення беларускага культурнага таварыства Янка Сычэўскі і Валянціна Ласкевіч. Яны адзначылі яго плённую шматгадовую працу ў газеце "Ніва", на пасадах старшыні ГП БГКТ і рэвізійнай камісіі згаданага таварыства. М. Хмялеўскі — аўтар цікавай кнігі "І так бывала".

Паважанага чалавека ўшанавалі не толькі сябры і таварышы па журналісцкай рабоце ды грамадскай дзейнасці. Гонар юбіляру аказалі таксама супрацоўнікі Генеральнага консульства Беларусі ў Беластоку, якія наведалі Міхася Іванавіча ў яго доме і ўручылі яму віншавальны ліст пасла нашай краіны ў Польшчы Мікалая Крэчкі, што было для М. Хмялеўскага прыемнай неспадзяванкай.

Аб годным ушанаванні свайго сябра ў Беластоку я даведаўся дзякуючы паездцы на Падляссе ансамбля народнай музыкі "Гудскі гармонік". Там лідскія музыкі пад кіраўніцтвам Андрэя Калышкі выступілі з чатырма канцэртамі ў рамках штогадовага на беластоцкай зямлі фэстыну "Беларуская песня".

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

ЛІТВА

## СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

Чарговае "Свята беларускай песні" ладзілі "Згуртаванне беларускіх грамадскіх арганізацый Літвы" і Беларускае таварыства Свянцянскага раёна. Апрача беларускіх спевакоў і ансамбляў з Літвы, у свяце браў удзел прафесійны гурт з Пастаў "Паазер'е". Выступленні артыстаў адбываліся ў перапоўненай зале Дома культуры мястэчка Свянцяны (Швянчоніс). Было відаць, што тутэйшае насельніцтва "згаладалася" па беларускай, роднай ім песні, хаця большасць прысутных лічылі сябе палякамі. Апрача "Паазер'я", запомніліся чыстыя галасы дзяўчат з хору "Спадчына" (Друскенікі) і песня-раманс "Краўчыха Ксеня", якую паводле народнай песні апрацавала і выканала настаўніца спеваў Віленскай беларускай школы імя Ф. Скарыны Валянціна Кавальчук. На святе прысутнічаў амбасадар Беларусі ў Літве спадар Уладзімір Гаркун. Аўтобус для паездкі ў Свянцяны беларускай віленскай грамадзе прадаставіў вядомы бізнесмен, прыхільнік беларушчыны спадар Міхась Руневіч.

**Віктар ЯГОРЧАНКА.**



ЛІТАРАТУРНАЯ СТАРОНКА

*Беларускі празаік Алесь ВЕТАХ (псеўданім Алеся Бельскага) нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Цімкавічы на Капыльшчыне. Аўтар повесці "Час акселерацыі" (зборнік "Карані", 1994), кніг прозы "Рухомая знічка" (1994), "Хроніка смутку" (1999).*

*Доктар філалагічных навук, прафесар БДУ, літаратуразнаўца і крытык выдаў кнігі "Пакуль баліць душа" (1995), "Жывая мова краявідаў" (1997), "Сучасная беларуская літаратура" (1997), "Свет ад травы зор" (1998), "Краса і смутак" (2000), "Сучасная літаратура Беларусі" (2000).*

**Алесь ВЕТАХ**

# ДЗІКІ ВЕЦЕР

*АПАВЯДАННЕ*

Малады дырэктар школы Валянцін Ярковіч лічыў Крываротава, старшыню мясцовага калгаса, няйначай, як дэспатам, самадурам і ліхадзеем, а той, у сваю чаргу, ставіўся да Ярковіча як да выскачкі, нейкага новага і дзіўнага стварэння часу перабудовы, называў за вочы самымі зневажальнымі, абразлівымі словамі — "байструк", "смаркач", "недаскрэбак". Варажнеча паміж імі пачалася з таго самага дня, калі Ярковіч выступіў з крытыкай старшыні на партыйным сходзе.

Перш чым прызначыць Валянціна на дырэктарскую пасаду, яму далікатна прапанавалі падаць заяву на паступленне ў КПСС, і вось такім чынам ён зрабіўся кандыдатам у шэрагі "арганізуючай і накіроўваючай сілы грамадства". Навяўлены кандыдат і дырэктар мусіў рушыць у наступ на Крываротава праз суседаву крыўду. Стары Валькоўскі паскардзіўся, што старшыня калгаса не выпісаў для яго каровы нават абярэмак саломы. Дзед надзеў святочнае галіфэ і пінжак з франтавымі медалямі, наваксаваў як след боты і пайшоў на паклон да Крываротава, які і слухаць нічога не хацеў пра падобныя просьбы, маўляў, больш нікому і саломіны не дасць, а яго слова — закон для ўсіх. Пра зерне для курэй ужо і не заікаўся, падаўся ціхом да сваёй хаты. Але дома крыўда разгарэлася, выбухнула гневам. Стары са сваёй кабетай клялі Крываротава і той дзень, калі пайшлі на калгасную парабкоўшчыну, бо паклалі на яе ўсё здароўе. Цяпер Валькоўскі не знаходзіў месца, ледзь не кожнаму, каго сустракаў, казаў, які гад іх старшыня.

Крыўдаў жа на Крываротава накіпела ва ўсіх у калгасе нямала, але людзі цярпелі, зносілі яго княжацкае самаўладства. А што ім заставалася рабіць, як не маўчаць, бо калі хто яму дапякаў, то выганяў таго са свайго кабінета мацюком. Старшыня мог зняважыць любога.

Валодзьку Рагавіцкага, які трохі недзе падпіў, Крываротаў сілком выцягнуў за каршэнь з кабіны трактара і так заехаў яму ў твар, што зламаў сківіцу. Абязвечаны Валодзька рашыўся і падаў на старшыню ў суд, але ніякай справядлівасці не дамогся, яго самога дзяўблі пытаннямі: чаму зранку быў пад мухай? А што было б, каб у нецвярозым стане ды перакуліў трактар ці наехаў на чалавека! Крываротаў па вяртанні з Масквы з чарговага партыйнага з'езда, на які яго выбралі ад камуністаў раёна, ззяў, як пафарбаваны лакам. Валодзьку Рагавіцкага адразу звольніў з працы, але, калі той прыйшоў прасіцца, то сустрэў яго грэблівай усмешкай і зласліва кінуў:

— Ну што, чарвяк, думаў лёгка спаскудзіш мяне! Кішка тонкая!

Валодзька спадзяваўся на дараванне і спагаду:

— У мяне ж двое малых. Хочаце, Адольф Лаўрэнавіч, я стану на калені, толькі вярніце ў калгас. Усё зраблю, каб сваю віну перад вамі змыць.

Крываротаў быў няўмольны, гнеўна сціснуў вялізныя пудовыя кулакі, і хлопца асляпілі раз'юшаныя вочы:

— Такіх, як ты, трэба галавой у дзярмо. Бач, у турму хацеў мяне адправіць. Скаціна, падла ты апошняя!..

На зыходзе вясны за Румкевічамі, на полі побліз могілак, па загаду Крываротава спалілі цэлую агромністую скірду саломы. Чутка ўмомант абляцела вёску. Больш за ўсіх гневаўся і абураўся стары Валькоўскі, які, убачыўшы свайго выбітнога суседа, дырэктара школы Ярковіча, крычаў і бухаў сябе ў грудзі:

— Я да Берліна дайшоў, а ён мне пуд саломы пашкадаваў. Каб яго, гэтага Крываротава, чэрві патачылі, каб яго цэлы век саломай карміл, каб яго стукнула і вытрыбушыла, каб яго душу чэрці па пекле цягалі...

Слухаючы гэтыя жудасныя праклёны, Валянцін вырашыў заступіцца за старога ветэрана вайны і іншых няшчасных вяскоўцаў, якія не ведалі ніякай ласкі і спачування з боку Крываротава. На адкрытым партыйным сходзе, куды прыехаў другі сакратар райкама партыі, дырэктар школы папрасіў слова і сказаў пра ўсё, што творыцца ў калгасе: і пра салому, і пра адносіны да настаўнікаў, якіх старшыня проста не прымае, называе дармаедамі, бо тыя, бач, не хочуць палоць дзялянкі буракоў, а толькі ідуць са сваімі патрэбамі ды просьбамі.

Крываротаў узяў слова ў адказ і сказаў, што гэта ўсяго толькі хваравітыя дадумкі, нагаворы, спроба навесці на яго чорны цень. А потым адразу знайшлося некалькі падхалімаў, якія пачалі спяваць дыфірамбы старшыні, казаць, які слаўны кіраўнік і чалавек Адольф Лаўрэнавіч. Астатнія камуністы сядзелі на сходзе як безгалосыя, нямыя рыбы. Праўда, калі Ярковіч смела і горача выказаўся, то адчуваў у зале ажыўленне, нябачную падтрымку асобных людзей, якія пільна ўзіраліся ў яго і, здавалася, зараз таксама паўстануць у ролі выступоўцаў, і ўсе яны разам выкрыюць і паставяць на месца калгаснага тырана. Аднак дзіва-цуду не адбылося, наадварот, усё абярнулася ў нечаканым і неверагодным святле: ён, дырэктар школы, інтэлігент, верыць брыдкім плёткам, намаўляе без дай прычыны і немаведама што на сумленнага кіраўніка, суне нос у чыжыя справы, а сам жа, аказваецца, далёка не анёл. Нічога не паробіш, але доўгія языкі на вёсцы мятуць чуткі, як памялом. Крываротаў, упёршыся ручышчамі ў трыбуну, напаў на Валянціна як вопытны праціўнік, хутка паблытаў усе карты і руйнаваў Ярковіча, як бульдозер.

— Ніхто на вас, чэсных працаўнікоў калгаса, як хоча ў гэтым пераканаць кандыдат у члены нашай вялікай партыі, аброць не накідвае, бізун не бярэ, — скаланаў паветра грамавым голасам старшыня. Затым прыклаў правую руку да грудзей:

— Паверце, але гэтыя дзікія метады наш дырэктар Ярковіч прыплёў таму, што ён, бедачына, перавучыў некалі ў інстытуце матэрыял пра далёкі феадальны лад, а цяперака, мусібыць, забыў, што там да чаго і ў які час жыве. Усім нам трэба перабудоўвацца, змагацца за дысцыпліну, парадак, думаць пра агульны дабрабыт грамадства. І па меры магчымасці ў гэтым кірунку я стараюся весці нашу гаспадарку. А вось таварыш малады дырэктар школы не паспеў пахадзіць кандыдатам партыі, а ўжо паказаў свой маральны воблік і тое, на што здатны. Спрыт жа ў яго, як у Донжуана. Падаўся ён марцаваць, палюе і спраўна накідвае аброць на замужніх жанчын, і ўсе вы гэта цудоўна ведаеце.

Пасля гэтых слоў зала разрагаталася. Калі рогат суціх, то старшыня працягваў бэсціць Ярковіча далей:

— Так, шыла ў мяшку не схаваеш. Чаму ў нашай падшэфнай школе мала выдатнікаў? Як хутчэй закончыць будаўніцтва школьнай сталоўкі, каб дзеці мелі гарачыя абеды! Вось гэтыя пытанні і праблемы павінны дзень і ноч хваляваць шаноўнага таварыша дырэктара. А мы, паверце, у калгасе разбяромся, што да чаго. Бо, як кажуць, самі з вусамі.

Счырванелы і абражаны Валянцін ледзь даседзеў да канца сходу. Такога ўдару і пляжання ён не чакаў. Крываротаў абліў памыямі, навярнуў на яго гару друзу, а ён нічога не здолеў сказаць у адказ. "Змагар знайшоўся!" — з прыкрасцю думаў пра сябе Ярковіч, не знаходзіў сваймy сораму і дзіцячаму спуду апраўдання. А "мацёры воўк" Крываротаў, калі апошні раз сустрэўся вачыма з Валянцінам, калюча ўсміхнуўся, зрабіў велічна-пагардлівы выгляд: маўляў, чыхаў ён на такіх недагабляваных праўдалюбцаў, як Ярковіч, бо ён тут пуп зямлі і гаспадар, а не нейкія пісклявыя мышы.

У нечым быў вінаваты і ён сам, Валянцін. Шмат хто на вёсцы ведаў, што дырэктар школы заходзіць дахаты да былой аднакласніцы Хрысціны Іваніцкай, муж якой немаведама дзе, а яна зараз пры бацьках гадуе малую дачку. Ведалі б яны, як Валянціну падабалася яна, прыгожая і мілая Хрысця, яшчэ са школы. Да гэтай часіны іх звязваў той адзіны нясмелы пацалунак пасля школьнага вечара — пацалунак, які ён не мог забыць праз усе гады вучобы ў сталіцы. Сімпатыі Хрысці хутка мяняліся, і яе вусны засталіся для яго недасяжнай таемнай марай. У Валянціна, вядома, знайшліся равесніцы, з якімі ён навучыўся цалавацца, а пазней зведаў ва ўтрапенні блізкасць з нашмат старэйшай дзяўчынай. Але ўсё гэта канула ў мінулае, цяпер амаль усе думкі круціліся вакол яе, нібы нябесныя свяцілы наўкруг сонца.

Хрысця закончыла бібліятэчны тэхнікум у Магілёве, там сустрэла хлопца і пайшла замуж. Нарадзілася дачка, і яе абраннік, які толькі адслужыў армію, забыўся на сям`ю, пачаў піць, кінуўся ў гулі, а потым, калі яна прасіла-ўгаворвала мужа спыніцца, адумацца, то неаднойчы ляжала пабітай, акрываўленай, і не было моцы падысці да дзіцяці. Іншым разам пакрыўджаная Хрысця плакала ў падушку да знямогі, але ўчадзелы муж не жадаў нават азвацца. Адцвілі раптоўна радасныя дні мацярынства, патухлі ўсякія надзеі, а каханне развеялася, як сон, белы свет ператварыўся ў нейкую шэра-змрочную пляміну. Падаўшы на развод, яна з`ехала на вёску да бацькоў. Хрысця падгадавала крыху дачушку і стала працаваць у бібліятэцы, а настаўнік, дырэктар школы Ярковіч проста не мог не завітаць у так званы вясковы "ачаг" культуры. Яна, эрэшты, ужо не раз назіркам сачыла за тым, з кім упершыню з хлопцаў пацалавалася ў школьныя гады. А калі Ярковіч зайшоў у бібліятэку — расхвалявалася, не ведала, куды сябе падзець. Праз дзён колькі, праводзячы былую аднакласніцу з працы, каля самай хаты Іваніцкіх, калі яны запыніліся, Валянцін пяшчотна цалаваў і адхукваў яе застылыя рукі, потым моцна прыгарнуў Хрысцю да сябе, такую сцішаную, пакорлівую і жаданую...

Маці хутка скеміла ды і ўпэўнілася, дзе вечарамі прападае сын Валянцін і хто заваладвае яго сэрцам, таму не рабіла выгляд, быццам нічога не бачыць і не ведае, а сказала ўсё, што думае пра сынавы спатканні і начоўкі ў Іваніцкіх. "Сынок, ты ж ведаеш: грэх не схаваеш у мех, — нярадасна казала маці і ўшчувала яго, Валянціна: — Хіба не сорам, што пра цябе людзі казаць будуць! Усе як бачыш дачуюцца пра тое, што ты з гэтай гора-адзіночкай звязаўся. Ты ж дырэктар школы, ва ўсіх на вачах. Так што, пакуль не позна, адумайся, забудзь сцежку да Іваніцкіх". Валянцін назнарок зусім не хацеў выслухоўваць маці, не зважаў на яе засцярогі і з гарачлівасцю і рашучасцю ў голасе сказаў пра тое, што наважыўся зрабіць — узяць Хрысцю замуж. Маці перш была адмахнулася ад такога сынавага прызнання, сярдзіта сказала, што дачка Іваніцкіх прычароўвае яго толькі спадніцай, а жыццё пражыць разам — гэта не ночку скаратаць. Але калі Валянцін узрушана загаварыў, што Хрысця дужа падабаецца яму, бо проста цудоўны і слаўны чалавек, якога ён чакаў усё жыццё, ясна зразумела: сын сапраўды намерыўся жаніцца. Тым не менш маці заставалася нязгаворлівай, ніяк не згаджалася на вяселле.

А вось Раман Іваніцкі, калгасны брыгадзір і бацька Хрысці, упадабаў Валянціна. Найперш за тое, што Ярковіч надта складана і прыгожа гаварыў, браў з ім чарку і частаваў яго дарагімі цыгарэтамі. "От гэта зяць!" — прыпальваючы, усклікаў ён. Іваніцкі закідваў нагу за нагу, пускаў дым, хваліў яшчэ колькі хвілін Валянціна як мог і немаведама за што, потым уваходзіў у вобраз глыбакадумнага мысляра і прапаноўваў: "Давай, чалавеча, пра наша жыццё-быццё паталкуем..." Доўгатыя філасофскія дыялогі не цягнуліся, бо Хрысця тактоўна перапыняла гаворку, забірала са стала пляшку і адпраўляла бацьку класціся спаць, бо інакш той праспіць нарад і атрымае добры наганяй.

Цяпер Валянціну здавалася, што гэта менавіта ён, бацька Хрысці, гаманкі, як дрэва ў непагадзь, і ганарлівы шляхцюк недзе пры Крываротаве казырнуў, што мецьме за зяця дырэктара школы Ярковіча. Таму тое, што старшыня калгаса згадаў прылюдна пра яго з Хрысцяй адносіны, сталася ўдарам пад дых. Пасля раскацістага, як гром, выступлення Крываротава Ярковіч адчуў, што яго справа дрэнь. Галоўнае, старшыня, выкарыстаўшы подла і бессаромна Валянцінава асабістае жыццё, не толькі пазбавіў сябе ўсялякіх заганаў і розных абвінавачванняў, але і выгарадзіў як самага найвялікшага святошу на зямлі. Вядома, можна было б пайсці ў контрнаступленне, выбраўшы тактыку і прыёмы самога Крываротава. Старшыня — і пра гэта не раз гудзела вёска — вазіў па акаляючых лясках пышнагрудую калгасную бухгалтарку Віялету Самец, якую празвалі праз яе бурныя і палкія да бяспамяцтва адносіны з мужчынамі Вальтанутай Трусіцай. Але пра тое Валянцін і словам не абмовіўся, ды і не здолеў бы корпацца ў чужой бялізне, пераказваць штосьці брыдкае, пошлае. Умешвацца ў інтымнае жыццё, лічыў ён, непрыстойна, зневажальна і падобнае расцэньваў як недаравальны ўчынак, хоць няхай нехта і кіруецца пры гэтым звышмэтай, хоча абараніць ісціну і праўду.

Пасля партсходу Ярковіч ляжаў пластом. Ён не мог перанесці такую абразу і крыўдзіўся ледзь не на ўвесь свет, бо, здавалася, куды ні кінь, яго запоўніла няпраўда, брудная хлусня, несправядлівасць, і сеюць усё гэта розныя ліхамыснікі і прахвосты, тыпы накшталт Крываротава. Усярэдзіне азвалася нейкая незразумелая крыўда нават на яе, сінявокую і кучаравую Хрысцю, якую так моцна пакахаў. Але ў чым яе віна перад ім, Валянцінам! Хіба жадалася ёй чагосьці благога і прыкрага для іх абаіх! Пытанні ні на хвілю не давалі спакою і балюча свідравалі нутро.

Ён баяўся апынуцца на двары. Там галёкаў дзікі вецер, які нялітасна гнуў долу дрэвы, зласліва шкуматаў кустоўе, гнаў чорны віхор пылу, каб засыпаць свет. Дзесьці ў сутарэнні ночы, як здавалася, выскаляліся і рагаталі д`яблавы памагатыя — агідныя пачвары ды злыдні, збіральнае імя якіх — крываротавы.

Валянцін шкадаваў, што павёў сябе як сарамлівы зялёны хлапчук і проста размазня, дазволіў Крываротаву глуміцца з іх кахання, не змог супрацьстаяць дэмагогу, які ў натхнёнай прамове, нашпігаванай гучнымі і трапнымі слоўцамі, ашальмаваў, ачарніў яго, Ярковіча, імя. Заставалася адно: пры першай зручнай магчымасці, калі яна ўсё-такі надарыцца, вывесці старшыню на чыстую ваду. Дзеля гэтага патрэбна была грунтоўная падрыхтоўка і час, які, на жаль, прынёс Валянціну новае страшэннае выпрабаванне. Відаць, яго выпрабоўваў сам Бог, правяраў, наколькі ён трывучы і здольны пачувацца чалавекам і асобаю.

А цяпер не хацелася б маляўніча апісваць той вясновы пагодлівы дзень, які адвеку вітае, перажыўшы зіму, усё жывое. Гэта акаляючы свет, абагрэты шчодрым сонцам і запоўнены жаўруковым звонам, не радаваў і не хваляваў яго сэрца. Валянцін нібы трапіў у зацемненую залу і глядзеў чорна-белае кіно: моўчкі беглі і зусім не цешылі сваім булькатаннем ручаіны, незаўважна і ціха ляцелі да родных балацявінаў жура́вы.

Не чакаў і не думаў Валянцін, што яго любая і дарагая матуля неспадзявана занядужае і ўвобмірг зачахне, як тая позняя кветка на першым крутым марозе. Незадоўга да скanання яна ўжо востра адчула, што вось-вось выправіцца ў апошнюю дарогу, таму пры першай жа палёгцы паказала сыну, дзе ляжаць рэчы, сабраныя на смерць, навучала яго, як і што трэба зрабіць, ладзячы пахаванне, каб пасля, крый Божа, людзі не абгаварылі. Валянцін з вялікім шкадаваннем і жалем глядзеў у матчыны памутнелыя і моцна падпухлыя вочы, скіраваныя ў вялікім хваляванні і апошняй умольнай просьбе да яго, сына: каб хаця ён чаго там не наблытаў, а выканаў усё як след, так, як належыць у такім выпадку па заведзеных ад дзядоў і прашчураў звычаях.

Маці забывалася, па некалькі разоў паўтарала адно і тое ж: увесь свет для яе замкнуўся на думцы пра тое, якімі будуць адправіны на вечны спачын. Яна нагадвала, каб Валянцін не забыў папрасіць пасядзець пры ёй у апошнюю ноч старую Кляпчыху, каб расстараўся ў калгасе машыны, бо людзі на сабе не данясуць яе, такую цяжкую, да могілак.

— І яшчэ, сыночак, прашу цябе, каб не плакаў. Не ўбівайся, не гаруй па мне. Я ўжо, дзякаваць Богу, пажыла, досыць, — аслабелым голасам прасіла яна.

Валянціну невыказна балюча і горка было чуць гэтыя словы, поўныя безнадзейнасці, і ён, седзячы пры маці і ўжо не стрымліваючы слёз, узяў яе маршчыністую руку і ўпершыню за сваё жыццё пацалаваў.

— Не кажы так, мама. Нам трэба жыць, а туды яшчэ паспееш. Няўжо табе гэтак хочацца пакінуць мяне, сваю хату, сад, гэтую цёплую вясну? Ты абавязкова ачуняеш. Вер мне. Чуеш! — з мальбою пытаў Валянцін і, колькі было ў ім сыноўняй любові і чуласці, гаварыў ён.

— Не плач, любы, не плач, дзіцятка, — лагодна і з нейкім шчымлівым пачуццём вінаватасці працягвала ўгаворваць яна. — Усё адно мне, небарацы, рады не будзе. Прыйшоў мой час, нічога не паробіцьмеш. Гэта не нам, а табе трэба жыць, сынку. Ты ж малады, разумны, яшчэ проці веку. Жыві і не марнуй сябе без меры. А мне няма чаго ў хваробе свет твой займаць.

Але ў хлопца нeставала моцы ўразумець і ўрэшце ўсвядоміць, што сёння ці заўтра маці назаўсёды пакіне хату, у якую так доўга чакала вяртання сына пасля вучобы ў горадзе. Зусім не хацелася верыць, што з самым дарагім чалавекам здарыцца тое ж, што раней наканавана было яго бацьку і многім аднавяскоўцам — на векі вечныя легчы ў дол пасярод старога беразаку.

Заканчэнне будзе.

ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА

# УРОКІ ДЗЕДА-ЎСЁВЕДА: ВОСЕНЬ

*Добры дзень, мае дарагія сябры! Сёння я прапаную вам падарожжа ў восень.*

**ВОСЬ ЯКІЯ СЛОВЫ ПРЫПАСЛА ЦАРЫЦА-ВОСЕНЬ:**

**Ве́расень** — сентябрь.
**Кастры́чнік** — октябрь.
**Лістапа́д** — ноябрь.
**Во́сеньскі** — осенний.
**Уво́сень** — осенью.
**Ба́біна лета** — бабье лето.
**До́ждж** — дождь.
**Парасо́н** — зонт.
**До́ждж імжы́ць, імглі́ць** — дождь моросит.
**Імжа́, імгла́** — изморось.
**Тума́н** — туман.
**Тума́нны** — туманный.
**Сы́расць, макрата́** — сырость.
**Во́лкі, во́гкі, во́хкі** — сырой.
**Паве́тра** — воздух.
**Надво́р'е** — пагода.
**Ві́льгаць** — влага.
**Вільго́тнасць** — влажность.
**Мо́кнуць** — мокнуть.
**Які мо́кне** — мокнущий.

**Во́блака** — облако.
**Хма́ра** — туча.
**Лу́жына, калю́га** — лужа.
**Смуга́** — дымка.
**Ураджа́й** — урожай.
**Фа́рбы во́сені** — краски осени.
**Багро́вы, барво́вы, барвя́ны** — багряный.
**Чырво́ны** — красный.
**Жо́ўты** — жёлтый.
**Бардо́вы** — бордовый.
**Адце́нні** — оттенки.

*Прачытайце словы, выпішыце тыя, з якімі сустрэліся ўпершыню, і складзіце з імі сказы.*

**А ГЭТЫЯ ЗАГАДКІ ПРАПАНУЙЦЕ СВАІМ ЗНАЁМЫМ:**

● Каля носа ўецца — у рукі не даецца.

(Вецер.)

● Дож-джык капаць пачынае —
Кветка тая расцвітае.
Сонца толькі з неба гляне —
Кветка мігам і завяне.

(Парасон.)

● Не крот, а капае, лап не мае, а саджанае з зямлі выкідае.

(Бульбакапалка.)

● Ходзіць полем з краю ў край, рэжа чорны каравай.

(Трактар.)



*Восень — пара збору ўраджаю, і дары яе можна было ўбачыць на шматлікіх кірмашах, якія прайшлі па ўсёй Беларусі.*

*Вось так выглядаў кірмаш у Віцебску (на здымках). Працаўнікі Віцебскага, Шумілінскага, Бешанковіцкага і іншых раёнаў вобласці прывезлі на кірмашныя рады адборную агародніну, садавіну, саджанцы пладовых дрэў, маладняк свойскіх жывёл.*

**ЦЯПЕР, МАЕ СЯБРЫ, Я ПРАПАНУЮ ГУЛЬНЮ "ВОСЕНЬ"**

— Восень, восень, прывітанне!
Рады мы тваім дарам.
У цябе мы запытаем,
Што прынесла, восень, нам?
— Я прынесла вам мукі.
— Значыць, будуць пірагі!
— Я прынесла грэчкі.
— Будуць перапечкі.
— Буракоў, капусты, круп...
— Будзе боршч, і будзе суп.
— Ці вы рады грушам?
— На зіму насушым...
— Ну а яблыкі — што мёд!
— На варэнне, на кампот.
— Я прынесла мёду!
Поўную калоду.
— Ты і яблыкаў, і мёду,
Ты і хлеба нам дала.
Ну а добрае надвор'е
Ты для нас не прынясла?
— Я пашлю вам дождж з неба!
— Не, не хочам! Нам не трэба!
Дождж, не перашкаджай,
Мы збіраем ураджай,
Будзе ў нас багаты год,
А цяпер — у карагод!

(А. Благініна).

*На дварэ ўжо лістапад — апошні месяц восені. Лёгкае павуціне, што лётала ў паветры, засталося ў верасні ды кастрычніку. Мы ўжо звыкліся з ціхім сумам прыроды. Жывым істотам патрэбны новыя сілы, таму мядзведзь, напрыклад, засынае ў сваёй цёплай бярлозе. У пачатку лістапада адлятаюць у вырай апошнія чароды птушак. Лісце, што адарвалася ад галін, вецер кружыць віхрам ды кідае на зямлю, каб і яна сагрэлася. К канцу лістапада шэрыя дажджы ператворацца ў белы мяккі снег.*

*Для гэтага месяца характэрныя туманы. Таму французы называлі лістапад "брумерам" (у перакладзе — туманны). А вось старабеларуская назва гучыць так: грудзень. Паходзіць яна ад слова "груды", што азначае "замёрзлая зямля". Руская назва — ноябрь, балгарская — ноември. У палякаў прадапошні месяц года завецца, як і ў нас, — лістапад. Як бачыце, людзі даюць назвы месяцам у адпаведнасці са сваімі назіраннямі.*

**КАЛІ І ВЫ ПАНАЗІРАЕЦЕ ЗА ПРЫРОДАЙ СЁННЯ ЦІ ЗАЎТРА, ТО ЗАЎВАЖЫЦЕ ШМАТ ЦІКАВЫХ ПРЫКМЕТ. ВОСЬ НЕКАТОРЫЯ З ІХ:**

● Многа рабіны — восень будзе дажджлівая, мала — сухая.
● Шмат жалудоў на дубах — на цёплую зіму.
● Вялікія мурашнікі ўвосень — на суровую зіму.
● Неба пад ноч чыстае, але вакол месяца з'явіліся кругі — будзе мароз, калі кругі гэтыя пачырванеюць — будзе снегапад з ветрам.
● Калі дым з коміна падымаецца вертыкальна ўверх — хутка надвор'е наладзіцца.

**ВОСЬ НЕКАЛЬКІ ВОСЕНЬСКІХ ПРЫКАЗАК, РАСТЛУМАЧЦЕ, ЯК ВЫ ІХ РАЗУМЕЕЦЕ.**

● Увосень на дварэ пагод сем: сее, вее, круціць, муціць, і рве, і лье, і знізу мяце.
● Запас есці не просіць.
● Без запасу чалавек гіне без часу.
● У кастрычніку і хата з дровамі, і гаспадар з лапцямі.
● Увосень і верабей багаты.

**НА ГЭТЫМ УСЁ. ДА НОВЫХ СУСТРЭЧ!**

Падрыхтавалі **Святлана КАРПУЧОК, Віктар ЯГОРЧАНКА.**
**Фота БелТА.**



КРЫЖАВАНКА АД Святланы ФАЦЕЕВАЙ

## "ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ"

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.**

**5. Блізкі ... лепш далёкай радні.**
**6. На чужы ... не павесіш замок.**
**9. З дурнога куста і ... пуста.**
**11. Прыбяры ... хоць у золата, а яна ўсё роўна ў хлеў пойдзе.**
**12. Цярпі, казак, ... будзеш.**
**15. З вялікага сабакі і вялікі ....**
**17. Справа ... баіцца.**
**18. Не той ..., хто мёдам мажа, а той, хто праўду кажа.**
**19. Свая ... — як родная матка.**
**20. Калі ў ворыве ... — у кішэні прарэх.**
**24. Лыжкаю ... не вычарпаеш.**
**25. Рубель без ... не бывае.**
**26. Плеччо ... не пераб'еш.**
**29. З міру па нітцы — голаму ....**
**30. У каровы ... на языку.**
**31. Новы ... чыста мяце.**
**33. Любяць ... здаровую, а сястру багатую.**
**34. Як да ... — скоры, як да працы — хворы.**

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.**

**1. Абяцанка — цацанка, а ... — радасць.**
**2. Якое ... — такое і племя.**
**3. Агарод любіць гарбатую ....**
**4. Не ўсё ..., што блішчыць.**
**7. Немазаныя ... далёка чутны.**
**8. Лепей лычны мір, чым раменная ....**
**10. Вялікаму каню — вялікі ....**
**13. Добры ... — палавіна справы.**
**14. Маленькі ... да веку шчаня.**
**16. Не ўсякая ... дажджу дае.**
**18. Гні ..., пакуль маладое.**
**21. Возьме голад — паявіцца...**
**22. У добрай гаспадыні і ... нясецца.**
**23. Пад чужую ... паскачаш — потым адплачаш.**
**27. З ніткі ... вярціцца.**
**28. Без ... і лапці не спляцеш.**
**31. Ад людскога ... не ўхаваешся.**
**32. Навошта ..., калі ў сям'і лад.**

** Словы стаўце ў назоўным склоне*



### АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 43

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ. 1. Годнасць. 3. Рэйка. 4. Сіло. 6. Здарэнне. 7. Праля. 8. Крыніца. 9. Цыраванне. 11. Навіна. 14. Кош. 15. Гадзіна. 16. Зенка. 17. Патуранне. 19. Іржа. 20. Нядзеля. 22. Кубак. 24. Лютасць. 26. Паліва. 27. Адзінота. 28. Лік. 29. Гародніна. 30. Узгорак.**

**ПА ВЕРТЫКАЛІ. 1. Глог. 2. Сядзіба. 3. Раніца. 4. Спазненне. 5. Жураўіны. 7. Паводзіны. 10. Рабаванне. 11. Назоўнік. 12. Сшытак. 13. Жвавасць. 17. Пляшка. 18. Пернік. 21. Сажалка. 23. Брама. 24. Ланцуг. 25. Цацка. 26. Палац.**


**«Голас Радзімы»**

**Галоўны рэдактар Наталля САЛУК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнік **Леанід МАРАКОЎ.**
Спецыяльныя карэспандэнты **Яўген КАЗЮЛЯ, Алесь МЯСНІКОЎ,**
**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 652 экз.
Зак. 2792.
Падпісана да друку 3.11.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).